**НОВЫ ФАРМАТ — 24 СТАРОНКІ**

№ 25 (958) 6 ліпеня 2016

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

# З МАРАЙ ПРА НЕЙТРАЛІТЭТ





**Беларусь рухаецца да нейтральнасці? Так, але марудна, і самае складанае — пераканаць Расію.**

**Пра гэта пішуць Сяргей Богдан і Гумер Ісаеў. Старонка 3.**

## Ад рэдактара

Вы трымаеце ў руках першы нумар «НН» у фармаце месячніка. Ён будзе з'яўляцца ў кіёсках у першую сераду кожнага месяца.

Большыя матэрыялы з месячніка мы не будзем публікаваць на сайце.

На NN.BY шукайце навіны і каментары, а таксама забаўкі ўсяго патроху. А месячнік хай будзе для няспешнага чытання, каб удумацца. Так мы бачым яго канцэпцыю. У астатнім — ніякіх зменаў. «НН» па-ранейшаму будзе люстрам беларускіх дзён.

На падрыхтоўку першага месячніка ў нас быў, такім чынам, толькі тыдзень.

У якасці першай тэмы ліпеньскай «НН» мы выбралі тэму нейтралітэту — патэнцыйнага «нейтралітэту Бел.». Ці пагражае Беларусі вайна? Якая? І якім чынам можна ад яе ўхіліцца? Цікавыя факты прыводзіць аналітык Арсень Сівіцкі. Вялікую працу напісаў аўтар «НН» з 1999 года Сяргей Богдан. Нарэшце, новыя аспекты раскрывае матэрыял Алеся Гелагаева пра навінкі зброі.

Цэнтрам цяжару палос культуры стала новая аповесць Уладзіміра Арлова — выдатнага пісьменніка, аўтара «НН» ад часу яе аднаўлення ў 1991. Назва ўразаецца ў памяць: «Чорны чалавек на зялёнай канапе».

Андрусь Горват дае працяг свайго дзённіка. Дакладней, ён прасіў абазначыць яго як «Заканчэнне», яму больш не хочацца выстаўляць сваё прыватнае жыццё на публіку, але мы не губляем надзеі ўгаварыць яго пісаць далей. Усё ж пачатак гэтага дзённіка стаў самай чытанай публікацыяй па-беларуску за 2015 год (больш за 106 тысяч праглядаў толькі ў інтэрнэце).

Антрапатурызм — гэтым разам новае падарожжа з «НН», з Андрэем Скурко, па лініі сутыкнення ВКЛ і Масковіі.

Катастрофа — стан гуманітарнай навукі як у Беларусі, так і ў ЕГУ. Праблему ўздымае філосаф Пётра Рудкоўскі.

І натхняльная веліч духу — у рэпартажы Сяргея Гудзіліна пра дзяўчыну Сашу.

Рэд.

# Справа сына і бацькі Япрынцавых: махлярства на 30 мільёнаў даляраў

### Хто такія Япрынцавы?

Уладзімір Япрынцаў — былы самбіст. Правая рука Юрыя Чыжа. Ён працаваў намеснікам дырэктара ў кампаніі «Трайпл». Нейкі час уваходзіў у спіс дваццаці найбагацейшых людзей Беларусі. Казбек Япрынцаў — ягоны сын.


Уладзімір Япрынцаў.
СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Каго судзяць разам з імі?

Аляксандр Арабян — ураджэнец Ерэвана, грамадзянін Расіі, супрацоўнік «Трайпла». Судзіць яшчэ мусілі грамадзяніна Грэцыі Ісака Пападопуласа, але ён збег ад следства.

### У чым абвінавачваюць Япрынцавых?

У прысваенні незаконным шляхам грошай аўстрыйскай і шатландскай кампаній. Казбек Япрынцаў заключаў з прадпрыемствамі пагадненні аб пастаўках мазуту з Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода. Браў грошы ў выглядзе задатку, але так нічога і не пастаўляў партнёрам. Аўстрыйскую кампанію прадстаўляў грамадзянін Расіі Юрый Савяк.

З матэрыялаў справы вынікае, што Казбек «кінуў» партнёраў на 27 мільёнаў даляраў. Тое самае ён паўтарыў з іншай шатландскай кампаніяй, але яе страты крыху меншыя — 3 мільёны даляраў.

Яшчэ ў матэрыялах фігуруе алімпійскі медаліст у штурханні ядра Андрэй Міхневіч, які вырашыў укласці ў бізнэс Япрынцавых 440 тысяч даляраў, якія зарабіў за кар'еру.

Казбека Япрынцава Міхневічу прадставілі як чалавека «ў меру распушчанага, але які навучыўся трымаць слова».

Гэтых пунктаў хапіла на артыкул 209 частка 4 КК «Махлярства, здзейсненае групай асоб альбо ў асабліва буйных памерах». Гэта турэмнае зняволенне ад 3 да 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.


Казбек Япрынцаў.
СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Роля Юрыя Чыжа?

Менавіта Юрый Чыж, начальнік Япрынцава, параіў Андрэю Міхневічу звяртацца ў КДБ з заявай, калі атлет зразумеў, што не пабачыць сваіх грошай назад. Чыжа дапытвалі па гэтай крымінальнай справе ў верасні 2015 года. Выглядае на тое, што Чыж можа быць выкліканы на суд у якасці сведкі. Будзе цікава, як вязень «амерыканкі» Чыж дае паказанні на вязня «амерыканкі» Япрынцава.

Уладзімір і Казбек Япрынцавы, а таксама Аляксандр Арабян праводзілі сустрэчы з кліентамі на офісе «Трайпла», а таксама ад імя «Трайпла» давалі падпіскі, што ўсё будзе выканана альбо грошы будуць вернутыя. Пракурор мяркуе, што паўнамоцтваў выступаць ад імя кампаніі ў іх не было.

### Ці прызнаюць віну?

Не, віну не прызнаў ні Казбек, ні Уладзімір Япрынцаў, ні Аляксандр Арабян. Працэс пабудаваны так, што сваю версію яны змогуць выказаць толькі пасля допыту пацярпелых, сведак, а таксама вывучэння пісьмовых матэрыялаў справы.

### Як трымаюцца?

Уладзімір Япрынцаў крыху змучаны, ён часта заплюшчвае вочы, прыхінаецца да сценкі. Лішніх эмоцый ён не выказвае. Казбек Япрынцаў жа, наадварот, дыхае здароўем. Здаецца, як і не было гада турмы. Модная кашуля, акуратная стрыжка, чырвоныя шчокі. Казбек некалькі разоў дэманстратыўна смяяўся, калі пракурор зачытваў абвінавачванне. Казбек сядзіць перадзе бацькі і Арабяна, па ўсім выглядае, што менавіта ён галоўны фігурант справы.

### Хто падтрымлівае?

У першы дзень у суд прыйшло пад сотню людзей. У залу змагло трапіць толькі каля 40 чалавек, што падтрымліваюць Япрынцавых. Гэта і сям'я, і сябры. Вельмі шмат людзей са свету барацьбы. Напрыклад, славуты дзюдаіст Націк Багіраў. «Япрынцаў заўсёды дапамагаў бабулькам, дзядулям, аплачваў аперацыі дзецям», — кажа Багіраў. Быў зачытаны ліст ад федэрацыі самба, дзе кажуць, што Уладзімір Япрынцаў у жыцці кіраваўся правіламі «гонару, абавязку і годнасці». Прыйшоў нават былы кіраўнік мінскага спецназа Юрый Падабед, які пасля адстаўкі ўзначальваў службу аховы на «Трайпле». Цікава, што міліцыянер не пусціў яго ў залу, бо ўсе месцы на той час ужо былі занятыя.

Зміцер Панкавец

## З рэдакцыйнай пошты

**Калі цябе жыццё задзяўбала…**

Калі цябе жыццё задзяўбала
І выйсця шукаеш у небыцці,
Шпурні бутэльку чаго папала
У дзверы, ў якія нельга ўвайсці.
Цябе ўбачаць, цябе пачуюць,
Ты станеш патрэбны многім людзям.
Ты заначуеш там, дзе начуюць
Людзі, ахвочыя да жыцця.

**Кнехт**

## Сказаў як звязаў

Калі ў нейкай сферы справы ідуць кепска, то нашы чыноўнікі кажуць: у гэтай сферы ў нас вялікі патэнцыял.

## Прыватныя абвесткі

**Віншуем Таццяну і Сямёна Печанко** з нараджэннем дачкі Соні.

Сябры

**Віншуем Волю Бурневіч і Алега Корбана** са шлюбам!!!

Сябры

## Апытанне на nn.by

**Ці ўхваляеце вы правядзенне дэнамінацыі?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 196 | 12% |
| Не | 233 | 14% |
| Так, але лепш бы ўвялі талеры | 675 | 42% |
| Галоўнае, каб спынілі інфляцыю | 511 | 32% |

Усяго прагаласавала 1615 чалавек.

## Самае чытанае на nn.by чэрвень 2016

1 «Раздзявацца і работаць»: сацсеткі выбухнулі флэш-мобам на словы Лукашэнкі ФОТЫ

2 Карэспандэнт «НН» адным з першых набыў новыя беларускія рублі ФОТЫ

3 Асцярожна, цыкута! Адпачынак на прыродзе можа стаць смяротным

4 У свеце набірае сілу флэш-моб «Няма станіка — няма праблем» ФОТЫ

5 Як немцы прасоўваюць новыя тэхналогіі, пра якія ў Беларусі яшчэ і не чулі

6 Хлопец падрыхтаваўся на выпадак, калі яго папросяць зняць сакольку з «Пагоняй» ФОТА

7 Часопіс Maxim назваў самую сэксуальную жанчыну 2016 года ФОТЫ

8 Таццяна Талстая пра Алексіевіч: Як будзе пі…ц па-беларуску?

9 «Мы да вашага «Бацькі» ў госці прыехалі», — расійскія вайскоўцы ля беларускай мяжы

10 Хлопец, які ўпаў з даху на Кастрычніцкай плошчы — паэт Ігар Кананові. Самагубства?



## У наступных выпусках «НН»

**Уладзімір Някляеў**
Купала і Сталін. Урывак з новай аповесці.

**Антон Лявіцкі**
Трывожны вецер на дарозе, бясконцая паходная песня. Даследаванне Генадзя Сагановіча «Грунвальд у беларускай гісторыі. Спроба разбору палітычнага міфа».

**Віктар Шукеловіч**
Пані Відаўская і Зюнечка. Апавяданне

# З марай пра нейтралітэт

Беларусь рухаецца да нейтральнасці? Так, але марудна, і самае складанае — пераканаць Расію.

Пра гэта пішуць Сяргей Богдан і Гумер Ісаеў у вялікай аналітычнай рабоце «Элементы нейтральнасці ў беларускай замежнай палітыцы і палітыцы ў сферы бяспекі».

Работа памерам 71 тысяча знакаў была напісана па-англійску. Яна пакуль нідзе не публікавалася. Са згоды аўтараў «НН» пераказвае самыя цікавыя яе моманты.

### Кожная нейтральная краіна нейтральная па-свойму

Слова «нейтралітэт» для розных краін азначае рознае. Краіны могуць быць нейтральнымі па міжнародным пагадненні. Або без такога пагаднення.

Скажам, у Другую сусветную вайну Швецыя і Турцыя захавалі нейтралітэт. Гэта не значыць, што ў іх не было адносін з ваюючымі бакамі.

Нейтралітэт у мірны час азначае няўдзел у вайсковых блоках.

Ёсць краіны, для якіх нейтральнасць стала асноватворным прынцыпам існавання. У Швецыі, напрыклад, гэта было свядомае рашэнне кіруючага класа.

**Нейтралітэт замацаваны** ў канстытуцыях Аўстрыі, Швейцарыі, Туркменіі, Малдовы, Мальты, Ватыкана.

А вось нейтральны статус Швецыі не замацаваны канстытуцыйна і грунтуецца, хутчэй, на традыцыі, а не на міжнародным пагадненні ці заканадаўчай норме.

У той жа час нейтралітэт Швецыі не замацаваны міжнароднымі дамовамі, у адрозненне ад Швейцарыі і Аўстрыі.

Цікава, што на рашэнне Швецыі пра нейтралітэт паўплываў вопыт ранейшага ўдзелу ў крывавых войнах. Швецыя ж доўгі час была ваяўнічай дзяржавай і панесла цяжкія людскія страты, асабліва ў XVIII стагоддзі.

Зусім іншай была сітуацыі Аўстрыі. У часе халоднай вайны ЗША і СССР падпісалі Маскоўскі мемарандум аб гарантыях нейтральнага статусу Аўстрыі. Гэта быў вынік намеру СССР распружыць адносіны з Захадам.

У Фінляндыі гісторыя нейтральнасці таксама своеасаблівая. Яе нейтралітэт у міжнародным праве не замацаваны, ніякіх дагаворных гарантый яго няма. У той жа час дэ-факта ён Савецкім Саюзам прызнаваўся. Гэта быў вынік у тым ліку ўпартасці фінаў у савецка-фінскіх войнах 1940-х, калі Суомі адстаяла суверэнітэт.

Дарэчы, усе нейтральныя краіны Еўропы дасягнулі найвышэйшага ўзроўню развіцця.

Няўдалая спроба захаваць нейтралітэт была ў далёкай азіяцкай краіны Лаос, што мяжуе з В'етнамам на ўсходзе, Тайландам на захадзе, Кітаем на поўначы і Камбоджай на поўдні. Калі за Індакітай ішла крывавая барацьба, у 1962 годзе, 14 краін у Жэневе падпісалі пагадненне аб прызнанні нейтралітэту Лаоса. Аднак гэта не ўратавала краіну ад замежнага ўмяшання. Пагадненне проста не выконвалася — занадта вострай была барацьба двух лагераў у тым рэгіёне.

### Нейтралітэт як заслона

Даволі часта дэкларацыя нейтралітэту як мэты — гэта прыхаваны спосаб дабіцца большай незалежнасці ад былой метраполіі.

Так, Малдова мае запіс пра нейтралітэт у сваёй канстытуцыі, але ў рэальнасці выбудоўвае партнёрства з НАТА.

Украіна дэкларавала «недалучэнне» ў 2010 годзе, але пасля падзей 2014 года мусіла гэтага статусу адракчыся. Унутраныя праблемы не дазволілі Украіне захаваць нейтральнасць.

Такім чынам, мы бачым, што нейтралітэт не бывае «ўзорным», «класічным». Кожная краіна, што выбірае такі статус, ідзе да яго сваім шляхам і па-свойму яго акрэслівае.

### Неабвешчаны нейтралітэт па-беларуску

Беларусь прапісала сваё імкненне да суверэнітэту ў канстытуцыі 1994 года. Доўгія гады, аднак, гэтае імкненне заставалася фікцыяй. Расія крок за крокам прывязвала Беларусь да сябе. Толькі пасля 2006 года першыя прыкметы «нейтральна-арыентаваных» рашэнняў праяўляюцца ў замежнай палітыцы Беларусі і палітыцы бяспекі.

Гэты трэнд узмацняўся, гэта стала асабліва заўважна пасля 2008 і затым 2013 гадоў.

Доўгі час гэтыя рашэнні інтэрпрэтаваліся як «беларускія арэлі»: маўляў, Мінск зближаецца то з Масквой, то з Захадам, каб тактычна збалансаваць кірункі сваёй палітыкі.

У сярэдзіне 2010-х стала ясна, што элементы нейтралітэту — пакуль не поўны нейтралітэт, а толькі яго элементы — сталі стабільным кампанентам палітыкі Беларусі.

Аглядальнікі спрачаліся, выпадкова ці не выпадкова Мінск не прызнаў «незалежнасці» Абхазіі і Паўднёвай Асеціі. Можа быць, проста таргуюцца? У 2014 годзе стала ясна: не выпадкова, не таргуюцца.

Канфлікт на ўсходзе Украіны стварыў прамую пагрозу і Беларусі. Таму Мінск рэагаваў на падзеі з пазіцыі міратворцы.

Асабліва ж выяўна новы падыход праявіўся ў выпадку канфлікту Расіі з Турцыяй у 2015-м. У Беларусі няма прамых інтарэсаў ані ў Турцыі, ані ў тым рэгіёне. Аднак Мінск не разарваў кантактаў з Анкарой. І калі Мінск у малазначным для сябе, але значным для Масквы пытанні адмовіўся падтрымаць Расію, значыць, за гэтым стаіць прынцыповае рашэнне.

Заўважна прычым, што Беларусь не займае бок Расіі, але і не займае бок праціўнікаў Расіі. Так было і з Грузіяй, і з Украінай, і з Турцыяй.

Безумоўна, Беларусь толькі выступае супраць перадзелу межаў краін былога СССР.

Калі Мінск не паддаўся жаданню Масквы размясціць у Беларусі сваю авіябазу, а ўлады Беларусі зрабілі шэраг крокаў, скіраваных на ўзмацненне самастойнасці арміі і спецслужбаў, некаторыя расійскія аналітыкі момантам звінавацілі Мінск у «дрэйфе» на захад. Але гэта недакладна. Мінск выразна імкнецца не раздражняць Маскву, не рабіць варожых Расіі крокаў. Гэта не «сыход на захад». Гэта, сапраўды, імкненне да «неабвешчанага нейтралітэту». Гаворка не пра ўрачыстыя дэкларацыі, а пра хітры механізм выжывання для беларускай дзяржаўнасці.

Такім чынам, Беларусь пачала падступацца да практычнай рэалізацыі канстытуцыйнага палажэння аб нейтралітэце. Гэта не значыць, што такі яе выбар адразу прызнаюць на Захадзе і Усходзе. Тым не менш нейтралітэт можа стаць важнай мэтай і аб'ядноўчай ідэяй для беларускіх эліт.

Важна адзначыць, што беларускі нейтралітэт можа быць пераканаўчым для іншых дзяржаў, толькі калі ён будзе грунтавацца на ўнутрыпалітычным плюралізме і падтрымцы асноўных палітычных сіл.

І галоўнае — дасягнуць гэтай мэты Мінск можа, толькі гарантаваўшы Маскве павагу да жыццёва важных інтарэсаў Расіі.

**Гранічная асцярожнасць**

Беларускае імкненне да нейтралітэту застаецца крайне асцярожным. Мінск па-ранейшаму звязаны шматлікімі пагадненнямі з Расіяй у сферы бяспекі. Беларусь удзельнічае ў АДКБ. У Беларусі размяшчаюцца два расійскія вайсковыя аб'екты з 2350 спецыялістамі.

Тым не менш пачынаючы з 2013 года Беларусь трохі дыстанцыявалася ад Расіі ў вайсковай сферы і пачала развіваць кантакты з іншымі краінамі, найперш — Кітаем.

Мінск вымушаны быць гранічна асцярожным. Беларуская армія залежыць ад расійскай у многіх аспектах. Але галоўнае — Беларусь знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці ад Масквы, і таму для Расіі кантроль над Беларуссю жыццёва важны. Любыя рэзкія крокі тут могуць прывесці да самых цяжкіх наступстваў.

**Сяргей Богдан**

піша доктарскую дысертацыю па паліталогіі ў Свабодным універсітэце Берліна. Ён таксама піша аналітычныя артыкулы для Цэнтра Астрагорскага — даследчай ініцыятывы, створанай беларусамі-эмігрантамі.

**Гумер Ісаеў**

дацэнт універсітэта Сулейман Шах у Стамбуле (Турцыя). Сваю доктарскую дысертацыю ён абараніў у Санкт-Пецярбургскім універсітэце (Расія).

## Сцісла

### Статкевіч ідзе ў дэпутаты і хоча правесці акцыю ў Драздах

Экс-кандыдат у прэзідэнты вылучае сябе кандыдатам у 105-й Старавіленскай акрузе, у якую ўваходзіць цэнтр Мінска і пасёлак Драздыэ.

Мікалай Статкевіч хоча выкарыстаць збор подпісаў для правядзення акцый пратэсту. У яго ў планах — вялікая акцыя на плошчы Свабоды і ў Драздах.

«Выбары» адбудуцца 11 верасня. Рэгістрацыя кандыдатаў пройдзе 2—10 жніўня.

### Людзі сабралі грошы Вольскаму

Выхад новага альбома запланаваны на восень. У ім будзе 16 трэкаў і, у параўнанні з папярэднім альбомам «Грамадазнаўства», ён будзе больш паэтычным, абяцае спявак.

### Юрыстку з 33-гадовым стажам не пусцілі ў камісію

Тамара Сідарэнка была вылучаная адначасова радай руху «За свабоду» і шляхам збору подпісаў грамадзянаў у акруговую камісію 101-й Сухараўскай выбарчай акругі ў Мінску.

Юрыстка мае 33-гадовы вопыт паспяховай адвакацкай дзейнасці, не раз узнагароджвалася граматамі Мінюста.

Тым не менш яе не ўключылі ў склад камісіі, якая, такім чынам, будзе складацца з адных лукашэнкаўцаў.

У 101-й акрузе мае балатавацца намеснік старшыні руху «За свабоду» Алесь Лагвінец.

### Славаміра Адамовіча адпусцілі з «Навінак»

Паэта Славаміра Адамовіча затрымалі 1 ліпеня ў Будславе. Там пахаваны ягоны дзед. Славамір вырашыў адведаць родную магілу ў дзень Будслаўскага фэсту. Міліцыя хацела яго надглядзець, як і ўсіх наведнікаў фэсту, ён не даўся. Тады ў адплату яго адправілі ў псіхбальніцу. Але дактары не сталі аглядаць паэта, а адпусцілі.

### Дваіх суддзяў прыгаварылі

Юрый Грушэцкі прызнаны вінаватым у атрыманні хабару. Ён прыгавораны да 11 гадоў пазбаўлення волі. Алена Мельнікава прызнана вінаватай у атрыманні хабару і прысуджаная да 13 гадоў, абое з канфіскацыяй. Яны былі суддзямі Эканамічнага суда.

СГ




**Сястра Васіля Быкава памерла ад наступстваў нападу на яе**

4 ліпеня на 90-м годзе жыцця памерла сястра Васіля Быкава Валянціна Уладзіміраўна.

27 мая на яе напалі проста ў хаце — яна жыла ва Ушацкім раёне. Яна пачула шоргат у бакоўцы і выйшла паглядзець з ліхтарыкам. Злодзей накінуўся ззаду, заціснуў ёй рот, каб не крычала, заламаў руку, некалькі разоў ударыў. Жанчына — з пераломамі рэбраў і ў шоку — трапіла ў бальніцу. Але не ўратавалі.

Жыццё наша горкае: XXI стагоддзе, але нібы спісанае з аповесцяў Быкава.

# Вайна па новых правілах: Топ-5 тэхналогій, якія

У ваеннай гісторыі неаднаразова здаралася так, што новая ідэя ці тэхналогія рабілі нежыццяздольнымі ўсе мінулыя распрацоўкі і прыводзілі да патрэбы ствараць тактыку і стратэгію ў той ці іншай сферы ваеннага мастацтва амаль з нуля.

Даволі наглядна падобная сітуацыя была паказаная ў перадапошнім эпізодзе «Гульні тронаў». Магутны флот абстрэльвае партовы горад, абаронцы нічым не могуць адказаць. Аднак тут прылятаюць цмокі, якія дыхаюць агнём. Драўляныя караблі ў адзін момант сталі абсалютна непатрэбнымі...



Баявая лазерная ўстаноўка AN/SEQ-3 Laser Weapon System на амерыканскім дэсантным караблі-доку «Понсэ».

### Без шанцаў

У пачатку XX стагоддзя падобны ж эфект мела, напрыклад, стварэнне Вялікабрытаніяй дрэдноўтаў — магутных артылерыйскіх караблёў, якія былі вельмі добра браніраваныя і максімальна ўзброеныя толькі самымі буйнакаліfurбернымі і дальнабойнымі гарматамі. Першы карабель такога кшталту, які і называўся «Дрэдноўт», даў імя ўсяму класу і ў адзін момант зрабіў усе раней створаныя лінейныя караблі ўсіх іншых краін састарэлымі. Ён адзін меў 10 305-міліметровых гармат — то бок быў у 2—3 разы магутнейшым за браняносцы нават самых апошніх праектаў. Дзякуючы паравой турбіне «Дрэдноўт» быў яшчэ і хутчэйшым. Ваенна-марская гісторыя ў 1906 годзе адразу падзялілася на «дрэдноўтную» і «перaддрэдноўтную» эпохі.

У XXI стагоддзі развіццё навукі і тэхналогіі, змена падыходаў да вайсковай справы, а можа, і нейкія сацыяльна-палітычныя працэсы могуць аказаць і, хутчэй за ўсё, акажуць аналагічны рэвалюцыйны эфект у ваеннай сферы. Паспрабуем ацаніць, якія чыннікі могуць памяняць тут правілы гульні.



Малюнак-канцэпт. Амерыканская ракета HTV-2 выходзіць у космас, каб там разагнацца да гіпергукавых хуткасцяў і зноў вярнуцца ў атмасферу.



Карабель Яе Вялікасці «Дрэдноўт».

### Дроны, беспілотнікі

Лятальныя апараты для выведкі і назірання за праціўнікам ужо рэгулярна выкарыстоўваюцца нават арміямі не самых тэхналагічна прасунутых дзяржаў. Ва Украіне за апошнія два гады «вайны падчас перамір'я» менавіта беспілотнікі сталі «вачыма» артылерыі двух бакоў, і ладная частка радыёэлектроннай барацьбы вядзецца за тое, каб перахапіць кантроль за варожым дронам.

Аднак цяпер ужо выкарыстоўваюцца ўдарныя беспілотнікі, якія робяцца як лёгкімі, гэтак і памерам з паўнавартасны самалёт. Ад гэтага застаецца зусім няшмат да магчымай адмовы ад пілатаваных баявых самалётаў увогуле.

Прынцыпова вырашаныя ўжо (у ЗША) праблемы дазапраўкі беспілотнікаў у паветры і іх пасадкі на авіяносцы.

Пераход на цалкам беспілотную баявую авіяцыю здымае неймаверную колькасць праблем і задач, якія вымушаныя вырашаць сучасныя вайскова-паветраныя сілы. Здымаюцца абмежаванні па перагрузках, якія не мог ператрываць нават добра падрыхтаваны пілот, здымаюцца амаль усе праблемы маральна-псіхалагічнай падрыхтоўкі, дый проста ў самалёце вызваляецца вялікі аб'ём месца, якое можна запоўніць дадатковай апаратурай і зброяй.

Больш за тое, працэсы мініяцюрызацыі могуць прывесці да стварэння зграй адносна недарагіх баявых машын-камікадзэ, якія будуць разлічаныя на прарыў абароны праціўніка коштам пэўнага адсотку непазбежных стратаў. Пасля якіх у падкантрольнае паветра будуць залятаць больш дарагія вялікія цяжкаўзброеныя беспілотныя апараты.

Такім чынам, калі цяпер для тэхналагічна прасунутых дэмакратычных дзяржаў чалавечыя страты сярод лётчыкаў з'яўляюцца велізарным стрымліваючым фактарам пры вядзенні баявых дзеянняў супраць хоць трохі падрыхтаванай варожай супрацьпаветранай абароны, праз 10—20—30 год гэты стрымліваючы фактар можа проста знікнуць.

### Гіпергукавыя ракеты

Гіпергукавыя — з хуткасцю больш за 5 Махаў (6000 км/г) — ракеты дазваляюць у мінімальны час нанесці ўдар па практычна любым пункце Зямлі. Дадайце сюды магчымасць манеўраваць у паветры і пэўныя стэлс-магчымасці, каб ракету заўважылі ў самы апошні момант — і краіна з такімі ракетамі можа дыктаваць сваю волю ўсім астатнім. Канечне, калі ў іншых краін няма такіх ракет.

У 2001 годзе ЗША пачалі ініцыятыву «Хуткі глабальны ўдар» (*Prompt Global Strike, PGS*) — перш за ўсё для знішчэння выяўленых баз тэрарыстаў амаль адразу пасля атрымання разведдадзеных. Мэта — мець зброю, якая дасягне праціўніка па ўсім свеце не больш чым за адну гадзіну. Аналагічныя распрацоўкі вядуць Кітай і Расія.

Калі такія ракеты можна будзе запускаць з зямлі, з-пад вады, са стратэгічных бамбавікоў, якія ўвесь час дзяжураць у небе, з узброеных аўтаматычных спадарожнікаў у космасе — знішчальны ўдар можа трапляць у любую цэль на планеце менш чым праз 10—15 хвілін пасля каманды.

У выніку рэзкага падвышэння хуткасці ракет і іншых лятальных апаратаў эфектыўнай супрацьракетная і супрацьпаветраная абарона можа стаць толькі ў выніку поўнай аўтаматызацыі — толькі камп'ютар будзе мець хоць нейкія шансы заўважыць, ацаніць пагрозу і паспець аддаць каманду на запуск зенітнай ракеты.

Наступствы распаўсюджвання такіх супрацьракетных і зенітных сістэм могуць для грамадзянскай авіяцыі быць не менш, а больш небяспечнымі, чым любыя чалавечыя злачынствы і памылкі.

### Кібервайна

Любая сучасная зброя, нават аўтамат звычайнага жаўнера, так ці інакш у XXI стагоддзі атрымае свой уласны, малы ці вялікі, камп'ютар.

Ужо цяпер камп'ютары стаяць у танках і самалётах, дапамагаюць кіраваць артылерыйскім агнём, адпраўляюць у неба ракеты, аналізуюць разведвальныя дадзеныя, перадаюць загады дый проста лічаць, колькі і куды заўтра трэба будзе даставіць сухіх пайкоў, камплектаў уніформы і патронаў.

Больш за тое, вайскоўцы самі імкнуцца да пераходу да «сеткавай» вайны: то бок арганізацыі ваенных дзеянняў такім чынам, каб усе прысутныя на полі бою жаўнеры сваёй арміі — пехацінцы, артылерысты, танкісты, лётчыкі, апараты беспілотнікаў і нават вайсковыя спадарожнікі — маглі ў рэальным часе абменьвацца інфармацыяй і каардынаваць свае дзеянні, каб максімальна эфектыўна атрымаць перамогу ў баі.

Такім чынам арміі атрымліваюць не толькі агромную моц, але і новую слабасць — спецыяльна падрыхтаваная каманда хакераў, нават проста цывільных людзей, можа паспрабаваць вывесці са строю тэхніку, атрымаць звышсакрэтную інфармацыю ці дэзарганізаваць дзеянні тысячаў вайскоўцаў.

Больш за тое, вайна ў кіберпрасторы можа весціся незаўважна, «гібрыдна», ад імя ананімнай групы ці нават іншай дзяржавы. Гэтак ужо некалькі атак на серверы Пентагона за апошнія гады аналітыкі ў ЗША прыпісваюць хакерам на службе Кітая. Можна меркаваць, што амерыканскія кібербайцы не застаюцца ў даўгу. Пра атакі ў кіберпрасторы хакераў РФ на дзяржаўныя структуры суседніх краін паведамлялася як мінімум 10 год таму. Аніводная дзяржава пакуль не прызнала адказнасць за такія аперацыі.

ЗША, якія стварылі афіцыйнае Кібернетычнае камандаванне ў 2009, нядаўна абвясцілі пра сваю першую афіцыйную кібервайну — супраць тэрарыстаў з «Ісламскай дзяржавы».

Аднак яшчэ ў 2009—2010 гадах СМІ паведамілі пры выкарыстанне віруса *Stuxnet*, які лічыцца амерыканска-ізраільскім ваенным вірусам, спецыяльна створаным для супрацьдзеяння іранскай атамнай праграме. Менавіта дзеянне гэтага віруса звязваюць з некалькімі сур'ёзнымі аварыямі і інцыдэнтамі на іранскіх аб'ектах, якія займаліся ўзбагачэннем урану.

Такім чынам, кіберпрастора не проста стварае новы фронт вайны, але таемная вайна ў ёй можа прывесці да непрадказальных наступстваў (напрыклад, выбухне АЭС), незаўважна паставіць пад чужы кантроль цэлыя арміі і дзяржавы, урэшце — справакаваць адкрытую вайну.

### Рэйлган і лазер

Скептыкі адзначаюць, што апараты, якія з дапамогай электрамагнітнага поля разганяюць снарад да хуткасцяў 7—10 тысяч кіламетраў у гадзіну, пакуль што фактычна не выйшлі далей за стадыю вельмі магутнай гарматы XVIII стагоддзя, якая страляе проста металічным ядром.

Сапраўды, адправіць у палёт з гіпергукавой хуткасцю нават на 100 км адносна невялікі некіраваны снарад без выбуховага рэчыва, выкарыстоўваючы энергію цэлай электрастанцыі, —

# могуць змяніць аблічча армій у XXI стагоддзі

цяпер гэта выглядае не надта абяцальна. Хоць гэты снарад сапраўды знішчыць любую цэль на сваім шляху.

Аднак калі на зямлі сапраўды рэйкатрон у найбліжэйшы час наўрад ці знойдзе сабе ўжытак, то ён можа стаць вельмі карыснай зброяй там, дзе няма на шляху лясоў і гор — у моры.

Тое ж самае датычыць і сучасных распрацовак лазернай зброі, якая прайшла трохі больш па шляху эвалюцыі да баявога выкарыстання. Авіяцыя ЗША кажа пра ўзбраенне лазернай зброяй самалётаў ужо пры нашым жыцці.

Сучасны баявы карабель сам звычайна мае магутную энергетычную ўстаноўку, магутнасць якой можа значна вырасці ў найбліжэйшыя гады дзякуючы прагрэсу ў сферы выпрацоўкі і захавання энергіі. Да таго ж, у адрозненне ад парахавой артылерыі, «руля» рэйкатрона (металічныя «рэйкі») ці лазерная ўстаноўка будуць амаль вечнымі — не будзе парахавых газаў, якія паступова разбураюць нават самыя якасныя гарматы.

На караблі рэзка павялічваецца боезапас, рэзка падвышаецца ўзровень бяспекі (няма выбуховых рэчываў на борце). Рэйкатроны можна выкарыстоўваць для супрацьпаветранай артылерыі і знішчэння варожых ракет: хуткасць стрэлу такая, што для іх сучасны самалёт — амаль нерухомы аб'ект. Для лазераў, прамень якіх мае хуткасць святла, усё выглядае яшчэ аптымістычней.

Справа за «малым» — за магутнымі і кампактнымі крыніцамі энергіі, за невялікімі акумулятарамі вялікай ёмістасці. А хто сказаў, што ў XXI стагоддзі мы не можам разлічваць на новую энергетычную рэвалюцыю?



**Беспілотнік X-47B на амерыканскім авіяносцы «Гары Трумэн».**



**Стрэл з электрамагнітнай гарматы вытворчасці ЗША. Снарад прабівае браняваную пліту.**

### Светлы і кашмарны свет біятэхналогій

Напэўна, нічога так не палохае чалавека, як «жывая зброя» у выглядзе мікробаў, вірусаў і іншых арганізмаў рознага памеру, якія могуць забіць, знявечыць, незаўважна пасяліцца ў яго ўласнай хаце і нават целе.

Лабараторыі нават не самых вялікіх сучасных дзяржаў і кампаній здольныя мадыфікаваць біяматэрыял рознымі шляхамі, падвышаючы яго небяспеку для чалавека ці нават усёй экалагічнай прасторы, у якой ён жыве. Можна зрабіць вірус устойлівым да традыцыйных сродкаў супрацьдзеяння, зрабіць сімптомы захворвання менш яўнымі, зрабіць мікраарганізм больш трывалым да розных тэмператур, узроўняў вільготнасці і г.д.

Сучасныя сродкі транспарту могуць лёгка разнесці хваробу па ўсёй планеце. Улічваючы, што магутнасць і рэсурсы некаторых тэрарыстычных арганізацый у перспектыве могуць наближацца да ўзроўню некаторых дзяржаў, нішто нам не гарантуе таго, што XXI стагоддзе не стане стагоддзем біялагічнага тэрарызму.

У той жа час біятэхналогіі могуць дапамагчы зрабіць жаўнера трывалым і моцным. Напрыклад, ідзе распрацоўка сродкаў для хутчэйшага залечвання ранаў і для стабілізацыі стану параненага. Арміі замаўляюць рознага роду стымулятары і сродкі змяншэння ўплыву на жаўнера дрэннага клімату.

Біятэхналогіі могуць дапамагчы распрацаваць новыя камуфляжныя матэрыялы, фарбы і пакрыцці, новыя прадукты, якія не толькі будуць больш эфектыўна перадаваць жаўнеру патрэбныя калорыі, але і падвышаць яго баявыя характарыстыкі.

Нарэшце, у далёкай будучыні жаўнер можа атрымаць імпланты ў розныя часткі цела і непасрэдна ў мозг, у тым ліку некаторыя «запасныя» жыццёва важныя органы, аўтаматычныя наборы антыдотаў, антышокавых сродкаў і лекаў адразу ў целе, якія будуць актывавацца, калі заўважаць атручванне, раненне ці хваробу. А біяінжынеры ў тыле змогуць з клетак жаўнера гадаваць яму новыя скуру, косці і органы.

Адзначу, што ўсё пералічанае зусім не лічыць фантастычным Цэнтр аналізу тэхналагічна-інфармацыйнага забеспячэння (IATAC) Міністэрства абароны ЗША.

Гэтак, летась Універсітэт Алабамы пачаў выпрабаванні на людзях лекаў, атрыманых з выкарыстаннем жаночага гармону эстрагену, якія могуць дапамагчы жаўнерам, якія хутка страчваюць кроў, перратрываць да шпіталя. Вядома, што жаночы арганізм, прыстасаваны да родаў, значна лепш вытрымлівае вялікія страты крыві, а таксама ў сярэднім мае больш высокі баляны парог. Гэтым і вырашылі скарыстацца медыкі. Уявіце, што мініампула з гэтым сродкам ужо зашытая ў целе жаўнера і адразу робіць ін'екцыю, калі іншы амаль незаўважны чып фіксуе падзенне ціску крыві.

### Ціхая ваенная рэвалюцыя?

Адзначым, што вельмі малаімаверна, каб проста новы танк, БТР, самалёт, карабель, новы аўтамат ці гармата былі здольныя нешта радыкальна памяняць у вядзенні і арганізацыі ваенных дзеянняў. Павелічэнне брані яшчэ на 50 ці 100 міліметраў, калібра гарматы ці трохі большая эфектыўнасць стралковай зброі не зменяць сітуацыі на полі бою заўважна. Проста адбудзецца невялікая змена ў традыцыйным стагадовым змаганні «снарада» і «брані».

Прарыўныя тэхналогіі, якія мы паспрабавалі назваць вышэй, могуць падавацца празмерна фантастычнымі ці, нечакана, зусім не відовішчнымі. Аднак менавіта такія, часам зусім неабавязковa вайсковыя распрацоўкі — адной з іх 100 год таму быў карбюратарны рухавік (а 1500 год таму — стрэмя і шпоры), — мяняюць тэхналагічны лад і арганізацыю не толькі арміі, але і ўсяго грамадства.

**Аляксандр Гелагаеў**

## Сцісла

### «Паланэзы» на парадзе

Найноўшая распрацоўка — рэактыўная сістэма залпавага агню (РСЗА) «Паланэз» была паказана на парадзе 3 ліпеня ў Мінску. Беларускія ўлады сцвярджаюць, што ракеты «Паланэзаў» дабіваюць на 200 км з дакладнасцю да некалькіх метраў. Гэта нашмат далей, а, галоўнае, дакладней за савецкія «Грады», якія выкарыстоўвала Украіна пры абароне Данбаса.



### Індыя прыняла на ўзбраенне ўласны знішчальнік

Індыя прэзентавала першы вайсковы самалёт, цалкам сканструяваны і пабудаваны ў краіне. Гэта лёгкі шматмэтавы знішчальнік чацвёртага пакалення *Tejas*.



Праграма па стварэнні шматфункцыянальнага індыйскага знішчальніка была пачатая 33 гады таму — у 1983 годзе, працэс шмат разоў прыпыняўся на розных этапах.

Дагэтуль Індыя самалёты закупляла — пераважна ў Расіі, але таксама ў Францыі і Брытаніі.

### У Гродне пахавалі ўраджэнца горада, які служыў у Расіі і загінуў у Сірыі

Афіцэра звалі Уладзімір Бекіш. Ён быў падпалкоўнікам сухапутных войскаў РФ, ягоная спецыяльнасць — вайсковая выведка. На пачатку 2016-га Бекіш быў камандзірам разведроты 5-й Асобнай танкавай брыгады (АТБр), вайсковая часць 46108. Перад Сірыяй ягонае падраздзяленне ваявала на ўкраінскай зямлі — яно засвяцілася пад Дэбальцавам на Данбасе.

Бекіша пахавалі на могілках у Аульсе, з вайсковымі ўшанаваннямі. На пахаванні, здаецца, не было вайсковага аташэ РФ Максіма Казанцава, затое прысутнічалі два расейскія генерал-маёры. Прыехалі яны машынай на дыпламатычных нумарах, паведамляе «Белсат».



**Уладзімір Бекіш у Гусінаазерску (Бураціа). 2005 год.**

### Авіяцыя ЗША абмяркоўвае

Генералы і афіцэры ВПС ЗША ўзялі ўдзел у Саміце па выкарыстанні кіраванай энергіі ў Вашынгтоне на мінулым тыдні, каб выпрацаваць бачанне будучых баявых аперацый з выкарыстаннем лазернай зброі, піша партал *airforcetimes.com*.

### Змена намесніка кіраўніка Генштаба

«Генерал-маёр Ігар Глод вызвалены ад пасады намесніка начальніка Генеральнага штаба Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь па баявым кіраванні ў сувязі з узростам. Адпаведны загад Аляксандр Лукашэнка падпісаў 27 чэрвеня», — паведамляе БелТА.

### Расійскія самалёты ў беларускім небе

У паветранай частцы параду 3 Ліпеня ў Мінску ўзялі ўдзел расійскія бамбавікі і знішчальнікі Су-34 і Су-30. На пытанне, ці ўдзельнічалі экіпажы гэтых самалётаў у баявых дзеяннях у Сірыі, прадстаўнік Мінабароны Беларусі не адказаў.

**Алесь Гел**

# «Расія рыхтуецца да вайны, і яе тэатрам можа стаць Беларусь»

*Пасля канфліктаў у Грузіі і Украіне шмат хто загаварыў, што наступным аб'ектам агрэсіўнай палітыкі Крамля можа стаць Беларусь. Маўляў, любая паспяховая спроба адхіліць Лукашэнку ад улады непазбежна прывядзе да акупацыі краіны расійскімі сіламі.*

*Але нават пакуль уладзе Лукашэнкі нічога не пагражае, Расія назапашвае патэнцыял умяшання. Новыя расійскія часці будуць размешчаныя ў Ельні і Клінцах, на самай мяжы Беларусі. Тым часам Расійскія цэнтры навукі і культуры ў Мінску і Брэсце ўзмацняюць падтрымку прарасійскіх структур — часам адкрыта чарнасоценскіх.*

*Што гэта ўсё значыць і чаго нам чакаць ад усходніх суседзяў далей? «Наша Ніва» пагутарыла з Арсенем Сівіцкім, дырэктарам Цэнтра стратэгічных і замежнапалітычных даследаванняў.*



**Арсень Сівіцкі**

аналітык, дырэктар Цэнтра стратэгічных і замежнапалітычных даследаванняў (Мінск).




**Ганцавічы — радыёлакацыйная станцыя папярэджання аб ракетным нападзенні.**
**Вілейка — вузел сувязі расійскага ВМФ.**
**Ельня (Смаленская вобласць) — мотастралковая дывізія.**
**Клінцы (Бранская вобласць) — мотастралковая брыгада.**
**Ад брыгады ў Клінцах да мяжы з Беларуссю — 60 км, а да Гомеля 90. Ад Ельні да мяжы 170 кіламетраў, а да Оршы — 220.**

Сівіцкі не верыць у афіцыйныя версіі, для чаго Расія размяшчае войскі ў непасрэднай блізкасці ад беларускіх межаў.

«У Крамлі яшчэ не вырашылі, што лічыць афіцыйнай версіяй размяшчэння каля нас сваіх войскаў, — іранізуе Сівіцкі. — Хтосьці, як прэс-сакратар Пуціна, проста нічога не ведае пра цэлую брыгаду, хтосьці падае гэта як адэкватны адказ на размяшчэнне войскаў НАТА ў Прыбалтыцы, а хтосьці, як пасол [у Беларусі] Сурыкаў, увогуле заяўляе, што база ў Клінцах — гэта такі спосаб стрымлівання Украіны. Разбежка ў афіцыйных версіях дае падставы шукаць нейкія іншыя матывы. Бо цудоўна вядома, што ў Беларусі і Расіі ёсць рэгіянальная групоўка войскаў, і ў адпаведнасці з логікай будавання абароны ад НАТА мы нясём адказнасць за забеспячэнне бяспекі на заходнім кірунку, за абарону Расіі ў тым ліку. І ў гэтай сітуацыі Расія робіць відавочна несувымерныя пагрозе крокі. Так, альянс плануе размясціць у Прыбалтыцы 4 батальёны, агулам — 4 тысячы чалавек. Але такія сілы нават нам не пагражаюць з ваеннага гледзішча, не кажучы там... А РФ бярэ і перадыслакоўвае асобную мотастралковую брыгаду з Екацярынбурга ў Клінцы, стварае новую дывізію ў Ельні пад Смаленскам.

Нагадаю таксама, што была яшчэ адна перадыслакацыя ў Валуйкі Белгародскай вобласці, і разам з гэтым ідзе фарміраванне яшчэ дзвюх новых дывізій у Заходняй вайсковай акрузе. І таксама ў канцы 2015 года скончылася фарміраванне першай танкавай арміі і рэфармаванне 20-й агульнаармейскай арміі. І ўсё гэта каля заходніх межаў. Расія збіраецца танкавай арміяй ваяваць супраць чатырох тысяч натаўцаў?

Трывогу выклікае і тое, што ад брыгады ў Клінцах да мяжы з Беларуссю — 60 км, а да Гомеля 90. Ад Ельні да мяжы 170 кіламетраў, а да Оршы — 220.

Чыста з тэхнічнага боку складваецца ўражанне, што Расія рыхтуецца да праекцыі сваёй ваеннай моцы на Беларусь.

Калі глядзець па ваенных нарматывах, то расійскім войскам спатрэбіцца ад 8 да 16 гадзін, каб дайсці да Гомеля і Оршы і ўзяць пад кантроль два асноўныя чыгуначныя і транспартныя вузлы ва Усходняй Беларусі. Гэта вельмі важны прадарм, які трэба кантраляваць, калі ўявіць нейкі канфлікт паміж Расіяй і НАТА.

Што Расія рыхтуецца да вялікага канфлікту, ствараючы новыя арміі з дывізіямі і разгортваючы брыгады, у мяне ў гэтым няма сумневаў. Справа ў тым, якую ролю ў гэтым адводзяць Беларусі. Здаецца, што толькі ролю тэатра баявых дзеянняў.

Да тых жа балтыйскіх сталіц, паводле даследаванняў, рускія змогуць дайсці за 30—60 гадзін, а да нас — за 8—16, гэта вельмі хутка».

### Плацдарм для атакі

«Калі на мяжы з краінай разгортваюцца войскі — гэта ўжо сур'ёзны інструмент ваенна-палітычнага ціску. Я так думаю, што гэта рэакцыя на пераход Лукашэнкам чырвоных ліній, якія для Беларусі заўсёды былі самымі цэснымі ў параўнанні з іншымі постсавецкімі краінамі. Так, для Украіны гэта было заключэнне асацыяцыі з ЕС і далучэнне да НАТА, а для нас — сам працэс нармалізацыі адносін

**НАТА размяшчае ў Прыбалтыцы 4 батальёны, а Расія на мяжы з Беларуссю — дывізію і брыгаду**

з Захадам, які вядзе да змяншэння залежнасці. Гэта ўжо вельмі выклік і пагроза расійскаму ўплыву. Тым больш што Расія аказалася ў сітуацыі ізаляцыі з боку Захаду.

Між тым Мінск выразна аддзяліў сваю палітыку ад маскоўскай. Мы не падтрымалі іх ва ўкраінскім канфлікце, у інцыдэнце на сірыйска-турэцкай граніцы. Мы не ідзём на канфрантацыю, а імкнёмся весці сябе як нейтральная дзяржава. І калі мы публічна агучылі, што нашую тэрыторыю нельга выкарыстоўваць для нападзення на іншыя краіны, гэта раз'юшыла расійскае кіраўніцтва.

Мэта Масквы — уцягнуць нас у новую халодную вайну і праз нашую тэрыторыю перманентна трымаць у напружанні Польшчу і Балтыю.

Сцэнары вучэнняў Расіі сведчаць: Расія разглядае прыбалтыйскі тэатр як магчымую арэну сутыкнення з НАТА. Таму ім вельмі важна забяспечыць поўны ваенна-палітычны кантроль над Беларуссю, бо самы кароткі шлях да Калінінграда — гэта Беларусь, праз «Сувалкскую браму».

### Каталізатары ўварвання

«Калі пытаюцца, што можа выступіць каталізатарам для ўвядзення расійскіх войскаў, звернемся да сцэнароў двух ваенных вучэнняў, якія праводзілі сумесна Беларусь і Расія. Гэта «Узаемадзеянне-2015» і «Славянское братэрства — 2015». Сцэнары распрацоўваў Генштаб РФ. Згодна з імі, на тэрыторыі Беларусі спантанна пачыналася «дэстабілізацыя ваенна-палітычнай сітуацыі», «актывізацыя дзейнасці незаконных узброеных фармаванняў» альбо «вельмі сур'ёзная пратэстная актыўнасць» — сцэнар Майдану, карацей. Далей беларускія ўлады не далі рады стабілізаваць становішча, «прыняўшы рашэнне» звярнуцца да Расіі і запрасіць сюды кантынгент для стабілізацыі...

Сцэнары ранейшых сумесных вучэнняў заўсёды засноўваліся на гіпатэтычным уварванні з Захаду. А тут — кардынальна новыя. І яны цалкам не адпавядаюць рэальнай сітуацыі ў Беларусі. Яны, хутчэй, даюць нам падказку аб устаноўках расійскага ваеннага кіраўніцтва — выкарыстаць любую дэстабілізацыю як нагоду для ўвядзення войскаў, як гэта было падчас украінскага крызісу.

Пры гэтым я не магу ўявіць, каб у выпадку ўнутраных пагроз Лукашэнка сам звярнуўся па ваенную дапамогу да Расіі — гэта проста не адпавядае ягонаму тыпу палітычнага лідарства.

Між тым расійская прапагандысцкая медыямашына пачынае «тлумачыць» расіянам, чаму беларусы кепскія — гэта і розныя «расследаванні», і страшылкі пра нібыта набіраючых моц нацыяналістаў, і русафобскія настроі, і байкі, што «Лукашэнка здрадзіў».

Так, людзі не вечныя. Сыход Аляксандра Лукашэнкі з палітычнай арэны некалі будзе сур'ёзным стратэгічным выклікам для нашай краіны. Што будзе пасля? Усё залежыць ад таго, ці будуць устойлівыя структуры, скіраваны на захаванне незалежнасці, суверэнітэту. І гэта не толькі парламент — гэта і грамадзянская супольнасць, і моцныя спецслужбы, і войска, якія не будуць здраджваць, як было ў Крыме.

Самае важнае, як павядуць сябе афіцэры ў выпадку чаго. Ва Украіне першымі здрадзілі раённыя аддзелы СБУ [аналаг нашага КДБ], потым — міліцыя, а ў апошнюю чаргу, не дачакаўшыся загадаў, войска.

На жаль, беларуская інфармацыйная прастора цалкам заснавана на расійскім ідэйным кантэнце, а ў расійскіх СМІ не гаворыцца, у якой непрыгожай і пройгрышнай сітуацыі апынуліся ўкраінскія афіцэры і спецслужбісты-здраднікі на тэрыторыях «Наваросіі» і Крыма.

Пра што казаць, калі часам нават у дзяржаўных СМІ транслююцца погляды, цалкам адрозныя ад пазіцыі Лукашэнкі па Украіне, Расіі і іншым.

Не сакрэт, што шмат хто з наменклатуры, нават вышэйшай, набліжанай да Лукашэнкі, крыва ўсміхаецца, калі чуе тэзы пра незалежную Беларусь. Ва ўяўленні некаторых выхадцаў з Саюза Беларусь не можа існаваць асобна ад Расіі, таму ўсе размовы пра суверэнітэт вартыя смеху. У гэтым таксама пагроза.

Але сёння ў нас ёсць усе магчымасці рыхтаваць сваіх вайскоўцаў і свае спецслужбы самастойна — у нас ёсць адмысловыя ВНУ і сёння мы не маем вялікай патрэбы ў інтэграцыі з расійскімі спецслужбамі».

### Новая Ваенная дактрына

«Што мы будзем рабіць, калі гіпатэтычны канфлікт з Расіяй пачнецца? Варта сказаць, што гэта будзе не звычайная вайна з франтам, а гібрыдная. І мы да гэтага рыхтуемся ўжо больш за год. Напрыклад, пасля Крыма прынятая новая Ваенная дактрына. Пры яе распрацоўцы ўлічваліся тыя формы, якія выкарыстоўваліся падчас анексіі Крыма і дэстабілізацыі сітуацыі на ўсходзе Украіны — «унутраны канфлікт» у нашай тэрміналогіі. Там [у дактрыне] напачатку ёсць падказка, хто гэтыя «ўнутраныя канфлікты» ініцыюе. Напісана прыкладна так, што «існуюць нейкія геапалітычныя акцёры, якія для рэалізацыі сваіх мэтаў выкарыстоўваюць узброеныя фармаванні для падрыву тэрытарыяльнай цэласнасці, у тым ліку ў еўрапейскім рэгіёне» — гэта ж непрыхаваны намёк на Расію.

І пра тое, што Беларусь вынесла некаторыя ўрокі з украінскага крызісу, сведчыць яшчэ і працэс рэфармавання беларускай арміі.

Быў прыняты новы Абаронны план — гэта значна важнейшы за дактрыну дакумент, бо Абаронны план — гэта дэталёвая мапа забеспячэння абароны Беларусі. Гэта цалкам сакрэтны дакумент.

Таксама была падпісаная сакрэтная Дырэктыва аб абароне дзяржавы. Што ў гэтых паперах напісана? Я не ведаю, але навідавоку сувязь паміж імі і ўкраінскім канфліктам.

Зазначу, што ў нас няма на ўсходзе механізаваных фарміраванняў — усе асноўныя ў цэнтры і на захадзе краіны. Але не трэба забываць, што ў Асіповічах ёсць дзве брыгады: 336 рэактыўнаартылерыйская і 465 ракетная брыгады. Калі казаць, ці могуць яны супрацьстаяць базам у Клінцах і Ельні, то я скажу — так. Гэтым брыгадам не патрэбныя дарогі, да мяжы яны дастрэльваюць і так. У 336 брыгаду паступіць і «Паланэзы». Па сутнасці, «Паланэзы», які быў распрацаваны менш чым за год, адразу пасля ўкраінскага крызісу, — гэта наш адказ на сітуацыю і на тое, што Расія адмаўляецца пастаўляць нам сучасныя ўзбраенні і ваенныя тэхналогіі. І хоць «Паланэз» створаны ў супрацоўніцтве з Кітаем, гэта фактычна азначае, што Беларусь абзавялася сваёй ракетнай праграмай.

Цяпер плануецца стварыць на нашай тэрыторыі поўны цыкл стварэння ракетнай зброі, і ў выніку мы самі зможам рабіць шырокую наменклатуру ракет далёкасцю да 500 кіламетраў. Гэта сувемерна з найноўшымі расійскімі «Іскандэрамі».

Зразумела, што ніхто — ні Кітай, ні НАТА — у выпадку чаго за нас ваяваць не будзе.

Уся наша надзея — на нашы войскі, у тым ліку на сілы спецыяльных аперацый. І важна мець зброю, якая б надзейна перакрывала наша неба для чужой авіяцыі».

### Калі Расія ўступае ў канфлікт з НАТА

«Ваяваць — калі што — мы не збіраемся. Пра гэта сведчаць тыя меседжы, якія сыходзяць ад нашага вышэйшага кіраўніцтва.

Яшчэ нядаўна амерыканскія і еўрапейскія аналітычныя цэнтры разглядалі Беларусь у кантэксце гіпатэтычнага канфлікту НАТА з Расіяй як краіну, якая аўтаматычна падтрымае расійскія агрэсіўныя дзеянні супраць прыбалтаў.

Аднак кіраўніцтва Беларусі дало зразумець, што мы разглядаем нашыя саюзныя дамовы толькі як інструмент бяспекі — яны пачынаюць працаваць, калі нападаюць на нас, на Беларусь або Расію. Але калі Расія пачынае канфлікт, то мы не будзем іх падтрымліваць, мы не падтрымалі іх падчас расійска-грузінскай вайны і ўкраінскай. І сам сцэнар «Анаконды» — нядаўніх вучэнняў у Польшчы, дзе «вялікая краіна нападае на малую і на хвалі эйфарыі ідзе далей на Балтыю», — сведчыць пра тое, што на Захадзе пачулі стратэгічныя ўстаноўкі, якія транслююцца беларускім бокам. І нашыя вайсковыя назіральнікі былі на гэтых вучэннях.

Беларусь і НАТА зацікаўленыя ў падтрымцы ўзроўню прадказальнасці дзеянняў адзін аднаго».

**Запісаў Арцём Гарбацэвіч**

# Што лепш: закрыццё гуманітарных факультэтаў ці працяг імітацыі даследаванняў?

Піша **Пётра Рудкоўскі**.

Апошнім часам гэтае пытанне ўсё часцей і часцей мяне вярэдзіць. Не значыць гэта, што я паставіў крыж на айчыннай гуманістыцы — да магілы ёй яшчэ далёка — але і надзеі на росквіт няшмат.

Гэты артыкул прысвечаны пяці казусам, якія шмат кажуць пра стан гуманістыкі ў нашым рэгіёне. Паколькі маёй мэтай тут ёсць перадусім звярнуць увагу на пэўную праблему, а не выкрываць канкрэтных асобы ці інстытуцыі, устрымаюся ад падачы імёнаў.



Заснавальнік і прэзідэнт ЕГУ Анатоль Міхайлаў.

### Казус 1: Прачытай тое, чаго няма

Аднойчы натрапіў у Ютубе на відэалекцыі, якія мяне заінтрыгавалі з дзвюх прычын. Па-першае, яны тычыліся тэмы рыторыкі і аргументацыі (а гэты абшар блізкі маёй спецыялізацыі), а па-другое, лекцыі былі аўтарства выкладчыцы ЕГУ. Пачаў слухаць. Аўтарка распавядае аб пяці тыпах «пафасу» і з націскам падкрэслівае, што гэтыя тыпы былі выдзелены вядомым старажытным філосафам Арыстоцелем. Адчуваю сябе крыху збянтэжаным, паколькі як з «Рыторыкай», так і «Паэтыкай» гэтага філосафа знаёмы досыць добра, але ніяк не магу прыгадаць, дзе ў яго даецца тая класіфікацыя, якую яму прыпісвае выкладчыца. Дый тэрміналогія надзвычай сучасная. Не вытрымаў і, скарыстаўшы опцыю каментавання ў Ютубе, запытаў у аўтаркі, адкуль жа гэтая класіфікацыя. «Пачытайце «Паэтыку». І навучыцеся карэктна задаваць пытанні», — вось такі быў адказ. Адразу стала зразумела, што спадарыня прыняла мяне за аднаго са сваіх студэнтаў і спрабуе маскіраваць сваю некампетэнтнасць шляхам намякання на невуцтва «студэнта» (маўляў, «Паэтыкі» не чытаў).

У чарговым допісе я дакладна ўказаў усе месцы (іх было толькі чатыры), дзе Арыстоцель у «Паэтыцы» ўжывае слова «*pathos*». Нідзе не было нават намёку на класіфікацыю, якую яму прыпісвае выкладчыца. Праз некалькі хвілін я заўважыў, што доступ да відэалекцый закрыты, а магчымасць каментаваць — заблакаваная. А шкада, бо ў наступным допісе я змог бы паведаміць, скуль насамрэч паходзіць тая няшчасная класіфікацыя. Паходзіла ж яна з аднаго правінцыйнага расейскамоўнага падручніка. Аўтар гэтага падручніка ў вольным стылі разважае пра пафас і раз-пораз уплятае ў свае разважанні імя Арыстоцеля. А выкладчыцы ЕГУ здалося, што сам Арыстоцель прамаўляе вуснамі, дакладней, пяром гэтага ўсходнееўрапейскага тэарэтыка.



**Пётра Рудкоўскі**

філосаф, багаслоў. Нар. 1978 у мястэчку Канвелішкі на Гродзеншчыне. Абараніў дзве магістарскія дысертацыі па багаслоўі ў Дамініканскім калегіуме ў Кракаве і па філасофіі ў Ягелонскім універсітэце. Аўтар кніг «Паўстанне Беларусі» і «Białoruska idea narodowa w XXI wieku». Дактарант Варшаўскага ўніверсітэта (аддзел лагічнай семіётыкі). У 2013 прызнаны лаўрэатам прэміі імя Льва Сапегі (Польшча).

### Казус 2: Google translate замест акадэмічнага пісьма

Цяпер — прыклад з іншага адукацыйнага кантэксту. Раз ці два разы на год я вяду курс лекцый і семінараў у адной польскай ВНУ для магістрантаў у рамках т.зв. праграмы валідаванага навучання (яна падключана да брытанскай адукацыйнай сістэмы, адмініструецца сумесна з брытанцамі і вядзецца на англійскай мове). Як і ў кожнай ВНУ заходняга тыпу, у дыдактыцы галоўны націск кладзецца на пісьмовыя працы даследніцкага характару. Няма сумневу, што гэта адзін з найлепшых спосабаў развівання ў студэнтаў крытычнага мыслення і практычнага засвойвання тых ці іншых даследніцкіх метадаў. У звязку з гэтым установа праводзіць вельмі суровую палітыку ў дачыненні да плагіяту. Дзеля больш паспяховага выкрывання выпадкаў несумленнага пісання працаў закуплена адна з найбольш прасунутых антыплагіятных праграмаў, рэгулярна арганізуюцца семінары і трэнінгі па выкарыстанні гэтай праграмы, а студэнты, злоўленыя на плагіяце, жорстка караюцца.

Але вось ужо каторы год мне прыпадае прыкрая задача тлумачэння маім калегам, што гэтая прасунутая антыплагіятная машына амаль цалкам бездапаможная ў дачыненні да студэнтаў з постсавецкіх краін (якія ўтвараюць вялікі адсотак навучэнцаў у гэтай установе). Красамоўны доказ гэтага: у бягучым (2015/16) навучальным годзе спасярод 11 дасланых мне пісьмовых прац ажно пяць аказалася плагіятамі. Гэта не былі, аднак, звычайныя спісванні чужога тэксту. Студэнты добра ведаюць пра існаванне магутнай антыплагіятнай праграмы і навучыліся паспяхова пазбягаць выкрыцця. Схема дзеяння студэнтаў прыкладна такая: знаходзіцца адпаведны расейскі тэкст — перакладаецца на ангельскую мову з дапамогай гугл-перакладчыка — (часам) злёгку рэдагуецца — капіруецца ў «docx» — падбіраюцца англамоўныя тытулы навуковых прац, з якіх кампануецца бібліяграфія (і псеўдазноскі) — праца здаецца выкладчыку.

За тры гады выкладання ў гэтай установе ў мяне было — сумарна — каля 45 студэнтаў. Спасярод іх ажно 14 студэнтаў (усе яны — з постсавецкіх краін) здалі мне плагіятызаваныя эсэ, дзе скрадзены матэрыял паходзіў з расейскамоўных крыніц (у адным выпадку — з польскамоўнай крыніцы). Інакш кажучы, амаль 30% студэнтаў магістарскіх (!) польска-брытанскіх (!) студыяў усцяж практыкуюць плагіят. Пазначу, што гэта ўсяго толькі адсотак выкрытых плагіятаў. Улічваючы тое, што такія — «міжмоўныя» — плагіяты немагчыма выкрыць з дапамогай антыплагіятных праграм, а я сам далёка не кожную працу правяраў на прадмет міжмоўнага плагіяту (іншыя выкладчыкі гэтым увогуле не займаюцца), можна быць амаль упэўненым, што рэальны адсотак такіх плагіятаў намнога большы. Хутчэй за ўсё, гэта паўсюдная і глыбока ўкаранёная практыка сярод студэнтаў з нашага рэгіёна, і не думаю, што яна характэрная толькі для той установы, дзе я выкладаю.

### Казус 3: Фальшывыя зноскі

Сталым суправаджальнікам плагіяту з'яўляюцца фальшывыя зноскі і арбітральная, пазбаўленая рэальнай сувязі з напісаным тэкстам, бібліяграфія. Нельга, аднак, выключаць, што фальшывыя зноскі могуць даваціца і тады, калі тэкст напісаны самастойна, але калі аўтар хоча надаць тэксту «больш акадэмічны» выгляд, а сябе хоча паказаць вялікім эрудытам.

У рамках згаданай вышэй праграмы валідаванага навучання абавязковай з'яўляецца практыка «мадэрацыі» правераных прац: выкладчык перадае загадзя прызначанаму калегу правераную працу, а той альбо пацвярджае адзнаку і сфармуляваныя заўвагі, альбо прапануе перагляд. Нядаўна ў рамках працэдуры мадэрацыі трапіла мне семестральная праца аднаго студэнта з Усходняй Еўропы. Выкладчык ацаніў яе вельмі высока, у мяне ж яна выклікала сур'ёзныя засцярогі. Напрыканцы эсэ была бібліяграфія, якая налічвала... 128 крыніц. Няўжо студэнт у працэсе пісання гэтай работы нейкім чынам выкарыстоўваў усе гэтыя крыніцы? Я пачаў прыглядацца да бібліяграфіі. Выявілася, што ў самім тэксце зноскі былі зробленыя толькі да 45 тэкстаў. Дзеля чаго ж тады змешчаны ў бібліяграфіі астатнія 83 тытулы?

Аднак нават лічба 45 нібыта выкарыстаных крыніц падалася мне нерэалістычнай. Студэнт нідзе не даваў старонак тэкстаў, на якія ён (быццам бы) рабіў зноскі, так што было крайне складана праверыць крыніцы. Я выбраў адну зноску і ўзяўся правяраць, ці ў тым тэксце, на які студэнт спасылаецца, ёсць што-кольвечы, што нейк перагукалася б са зместам дадзенага фрагменту эсэ. Аказалася, што нідзе ва ўказанай крыніцы нават блізка не абмяркоўваецца дадзеная тэматыка. Ясна было, што зноска фальшывая. Амаль няма сумневу, што ўся гэтая аграмадная бібліяграфія — 128 англамоўных акадэмічна выглядаючых тытулаў — гэта выключна спосаб уразіць чытача. Гэта далёка не адзіны заўважаны мной выпадак раблення фальшывых зносак і штучнага раздзьмування бібліяграфіі. Праўда, у іншых выпадках студэнты былі больш памяркоўнымі: абмяжоўваліся некалькімі дзясяткамі бібліяграфічных тытулаў.

Цікава, колькі такога тыпу тэкстаў трапляе ў рэспектабельныя акадэмічныя часопісы?

### Казус 4: Кампіляцыя як метад стварэння навучальнага матэрыялу

Вернемся яшчэ раз да больш радзімага месца — ЕГУ. Аднойчы трапілі мне ў рукі (дакладней, на манітор камп'ютара) дыдактычныя матэрыялы двух выкладчыкаў. Матэрыялы былі змешчаныя з думкай пра завочных студэнтаў, якія вучацца праз пасярэдніцтва інтэрнэт-платформы *Moodle*, а іх галоўная функцыя — даступна і проста растлумачыць студэнтам асноўныя канцэпты і ідэі па дадзенай тэме.

Першае, што мяне ўразіла ў гэтых матэрыялах, гэта тое, наколькі няпроста і недаступна быў выкладзены матэрыял. Але не гэта сутнасць справы. Фразеалогія, якой выкладчыкі карысталіся, была настолькі экзатычная, а сувязь паміж паасобнымі фрагментамі тэксту настолькі разарваная, што я вырашыў прашукаць інтэрнэт. Дужа карцела даведацца, скуль уся гэтая сечка паходзіць: ці з галавы выкладчыкаў, ці ўсё ж з сеціва. Выявілася, што прыкладна 2/3 навучальнага матэрыялу — гэта кампіляцыя фраз, сказаў і цэлых абзацаў, узятых з самых розных інтэрнэт-крыніцаў. Ніякай спасылкі на гэтыя крыніцы не было, што таксама трэба расцэньваць як форму плагіяту. Што праўда, у дачыненні да тэкстаў дыдактычнага характару няма абавязку строга прытрымлівацца правілаў афармлення зносак, аднак жа крыніцы, якія выкарыстоўваліся пры стварэнні такога матэрыялу, павінны быць пералічаны.

Калі ж глядзець на гэту справу з чыста дыдактычнага гледзішча, то паўстае пытанне: навошта ўвогуле было ствараць вось такі — няўцямны, пасечаны, спрэс заблытаны — навучальны матэрыял? Чаму б не пакінуць адны толькі спецыялізаваныя тэксты, каб студэнты самі разбіраліся ў іх? Але ж... трэба ствараць бачнасць, што аўтары курсу чыняць нейкі «ўласны» ўклад.

### Казус 5: Здзек з логікі на яе ўласнай тэрыторыі

У ЕГУ, наколькі мне вядома, няма асобнага курсу па логіцы або тэорыі аргументацыі. Ёсць, аднак, некалькі курсаў, якія прадугледжваюць шырокае знаёмства з лагічнымі прынцыпамі. Бо як жа інакш, гэта ўсё ж такі «еўрапейская» ўстанова. Вось жа нядаўна трапілі мне тэставыя заданні па логіцы, што даваліся студэнтам у рамках аднаго з егэўшных курсаў. Разам з пытаннямі былі таксама «правільныя» адказы, дакладней адказы, якія выкладчык запраграмаваў у *Moodle* у якасці правільных. У заданні «знайдзі дэдукцыйнае разуманне» ў якасці «правільнага адказу» запраграмаваны прыклад разумавання, якое не толькі не з'яўляецца дэдукцыйным, але ўвогуле ўяўляе сабой заганнае разуманне. Тымчасам у іншым месцы разуманне «Некаторыя студэнты — паэты, значыць, некаторыя паэты — студэнты», якое з'яўляецца бездакорна дэдукцыйным, выкладчык пазначыў як «недэдукцыйнае» (і забраў адзін пункт у студэнткі, якая (правільна) пазначыла гэта як прыклад дэдукцыі).

Я не займаўся маніторынгам усяго курсу, але вышэй прыведзеная проба даволі інфарматыўная. Калі ў такіх элементарных рэчах выкладчык робіць памылкі, то існуе высокая імавернасць, што ў больш складаных справах памылак магло быць яшчэ болей. А калі вось такая лагічная культура ўласціва выкладчыку логікі (дакладней курсу, які прадугледжвае логіку), то чаго хацець ад студэнтаў?

Час на высновы. Калі б я мусіў нейк коратка, адным словам, акрэсліць спецыфіку ўсходнееўрапейскай гуманістыкі, то ўжыў бы слова «сімуляцыя». Стварэнне бачнасці, фасаднасці, чыста знешняй «акадэмічнасці» — вось найбольш распаўсюджаны спосаб культывавання гуманістычных навук у нашым рэгіёне. Прыклады такой сімуляцыі можна сустрэць паўсюль: пачынаючы ад бакалаўраў, праз магістрантаў і дактарантаў і заканчваючы «заслужанымі» ў рэгіёне выкладчыкамі тых ці іншых гуманітарных дысцыплін.

Да пары да часу ў мяне была надзея, што, можа быць, навучанне ў заходніх універсітэтах палепшыць сітуацыю. Цяпер і гэтая надзея стыне. Мой досвед з усходнееўрапейскімі магістрантамі, што навучаюцца ў рамках польска-брытанскай праграмы, паказвае, што ўсходнееўрапейцы хутчэй імпартуюць свае сімуляцыйныя прыктыкі ў заходнія ВНУ, чым самі навучацца праводзіць сацыягуманістычныя даследаванні. (Прашу прабачэння ўва ўсіх тых, хто сумленна навучаўся на Захадзе і цяпер праводзіць сапраўдныя навуковыя даследаванні — іх я не маю на ўвазе.)

Сімуляваць можна не толькі здаючы плагіятызаваныя тэксты і раздзімаючы бібліяграфію. Можна гэта рабіць таксама шляхам множання спецыялізаванай лексікі, экзатычнай фразеалогіі або цьмяных метафорыкі. Няшмат ёсць чытачоў, якія будуць губляць час на расшыфроўку кожнага няяснага месца. Да таго ж дамінуючы ў нашым рэгіёне «герменеўтычны» падыход да гуманітарных навук стварае неабмежаваныя магчымасці апраўдання любой сімуляцыі. Бо заўжды можна рэплікаваць, што, маўляў, педанты-аналітыкі нязадольныя зразумець усяе глыбіні і энэргетыкі «герменеўтычнай» навукі.

Можа, пара б ужо выйсці з гэтага герменеўтычнага летаргу і ўсвядоміць, што сімуляцыйныя практыкі культывавання гуманістыкі прывялі да таго, што перад айчыннай гуманістыкай ужо не стаіць пытанне: быць «глыбокай» ці «неглыбокай». Перад ёй стаіць самае фундаментальнае пытанне: быць ці не быць? Бо любая сімуляцыя, незалежна ад таго, наколькі моцна яна прыхаваная, не трывае доўга.

**Ніжнія парогавыя балы ЦТ-2016 на гуманітарныя спецыяльнасці**

Згодна з пастановай Мінадукацыі, пры паступленні на моўныя, лінгвістычныя і гістарычныя спецыяльнасці абітурыентам трэба набраць па мове ці гісторыі мінімум 19 балаў з 100.

# Лінія сутыкнення

## Падарожжа ўздоўж колішняй мяжы ВКЛ і Масковіі

Козкі—Талачын—Друцк—Мсціслаў—Крычаў—Слаўгарад—Быхаў—Рагачоў. Піша **Андрэй Скурко**.

Маршрут гэтай паездкі вызначыўся пасля наведвання першага яго пункту — вёскі Козкі Талачынскага раёна, на поўнач ад мінска-маскоўскай шашы М1. Тут, сярод кустаўя ды няскошаных траваў, захаваўся ўнікальны аб'ект: маркіраваная беларуска-расейская мяжа. Яна паўстала ў 1772, па выніках першага падзелу Рэчы Паспалітай.

Далей мы рушым на поўдзень — па лініі сутыкнення ўзрастаючых апетытаў сярэднявечнай Масковіі і слабення безуладна-анархічных ВКЛ ды Рэчы Паспалітай.


Валы друцкага замчышча.

Да Козак трэба ехаць, збочыўшы з М1, праз вёску Плоскае, цэнтр сельсавета, па гравейцы. Справа ў полі — разложыстыя старыя дубы. Іх мог бачыць Якуб Колас, які ў 1908-м настаўнічаў непадалёк, у прыватнай школе ў вёсцы Сані. Каб выехаць на Козкі, трэба збочыць у Плоскім направа. Не разабраўшыся ў паваротах, едзем не туды і адмахваем лішніх кіламетраў васямнаццаць. Але ўражанні таго вартыя.

Дзікая прырода, вартая *National Geografic*, з лясамі, лугамі ў квецені і балацінамі, у якіх тоне міф пра ўпарадкаваную лукашэнкаўскую Беларусь. На дарозе ляжаць паваленыя дрэвы, трапляюцца вёскі без указальнікаў — прычым гэта правіла, а не выключэнне. Але ёсць лайфхак: калі няма ў каго спытаць, пільнуйце на хаце ці на слупе шыльдачку з інфармацыяй, калі прыязджае аўталаўка. Там будзе назва вёскі.

Таксама на выездзе з Плоскага — прысады з таўшчэзных ліставўніц, старэйшых, чым у купалаўскіх Малых Бесядах. Яны цвітуць і ахутаныя водарам. Дзеля аднаго гэтага варта было памыліцца дарогай.

### «П'яніцы намаруць»

Вяртаемся на скрыжаванне. Спечаны сонцам мясцовы чалавек у расейскіх паліцэйскіх штанах паказвае шлях на Козкі. Аказваецца, сапраўднага трэшу мы яшчэ не бачылі. Чатыры кіламетры падаюцца двашчаццю. Гэта напалову ямісты асфальт, напалову — лясная дарога. Прычым «напалову» не ўпоперак, а ўздоўж. Але ўсім мілоснікам Заходняй Беларусі хачу сказаць, што яшчэ горшай дарогай я некалі ехаў ад вёскі Сівіца Валожынскага раёна да гродзенскай трасы.

Калі паказаліся хаты без указальніка, для пэўнасці пытаем у мясцовай бабулі: ці не падкажаце, што за вёска. «А чаму ж не? Скажу! Гэта Козкі», — жыва адгукаецца спадарыня. І граніцу яна знае, але чыя то граніца — не скажа, даўно было, хоць сама ўжо 85 гадоў жыве і вайну помніць. Цудоўная беларуская мова, натуральная шчырасць і прыязнасць.

Два яе сыны ў Мінску. Бабуля-суседкі, упяцех, трымаюць каня абрабляць гароды. «Каня таго раз укралі, дык аж у Круглым знайшлі», — расказвае яна.

Яшчэ адзін факцік аматарам паразважаць пра «заходнюю працавітасць» і «ўсходняе лайдацтва».

Няўжо ж хапае сілы яшчэ араць? «П'яніцы нам аруць», — адказвае бабуля.

Дарога праз вёску — з гары на гару — пертвараецца ў палявую. Калі прайсці па ёй метраў трыста, па правую руку можна заўважыць невысокі, у калена, вал, парослы дзікімі грушамі. Гэта і ёсць мяжа. Неаранае поле за валам было ўжо на расейскай тэрыторыі. Мяжа прастаяла ўсяго дзвацаціг одздзе — потым імперыя пасунулася яшчэ на паўтысячы вёрст на захад і запанавала на дзвесце гадоў.

Вал цягнецца далёка, да канца мы не дайшлі. Але якраз хапіла часу падумаць, што бывалі ў беларускай гісторыі часы, яшчэ трывожнейшыя за сённяшнія.

### У персаналу абед

На другі бок трасы М1 — нібы іншы свет. Тут ужо адчуваецца «моцная і квітнеючая». І сам моцны і квітнеючы Талачын на рацэ Друці — як з агітплаката.


Наканечнікі татарскіх стрэлаў часта мелі форму трохкутніка асновай уперад.


Цяпер Друцк — аграгарадок. На фота: бярозавыя Дзед Мазай і зайцы каля мясцовай школы.

Усё-такі практыка Дажынак і Дзён пісьменства дае плён — раённыя гарады падфарбавалі, заасфальтавалі, падынфаструктурылі. З другога боку, яны сталі выглядаць досыць аднатыпна. І «савок» вытыркаецца са сферы паслуг: у кавярні — пераўлік, на ўвесь разлог гаспадарчай крамы няма пальчыкавых батарэек («ідзіце ў кіёскі»). Але якія прыемныя цэны! Паўнаварты, з дэсертам, абед у рэстаране «Друцк» — 4 рублі. Зала на сто чалавек, мы адзіныя наведнікі. З цікавасцю слухаем дыялог афіцыянткі з кухарамі — яны спрабавалі не прыняць замову, кажучы, што «ў персаналу цяпер абед», але ўрэшце здаліся.

### Спадкаемцы Друцка

Адзіныя наведнікі мы і ў раённым музеі. Квіток туды каштуе 50 капеек. Талачын з поўначы і Круглае з поўдня — два сучасныя райцэнтры, якія падзялілі спадчыну старажытнага Друцка. Таму паказаць музею ёсць што, але існуе праблема падачы.


Брама былога базыльянскага, цяпер праваслаўнага кляштара ў Талачыне з адтулінамі для засоваў-бярвёнаў.

На стэндзе «стрэлы» выстаўленыя ўсе наканечнікі стрэлаў, якія мае музей. Тут і трохкутны (асновай уперад), які, напэўна, выпусціў са свайго лука ардынец, і тоўсты чатырохгранны арбалетны болт вялікалітоўскіх часоў, і лістападобныя — без ніякіх подпісаў.

На стэндзе «сякеры» побач ляжаць інструменты маскоўскага ратніка XVII ст. і мясцовага цесляра нядаўніх часоў. Кожны з тых экспанатаў зайграў бы ў асобным стэндзе ці з двума словамі подпісу. А так усё ў кучы, навалам.

Цікава, што ў ваколіцах Талачына насілі драўляны абутак. Выдзеўбаныя чобаты, накшталт нямецкіх, ляжаць у этнаграфічным кутку. «Калі анучаў накруціць — зручна, не націрае», — дзеліцца дзіцячымі ўражаннямі супрацоўніца музея.

Яшчэ адна мілая дэталь талачынскага музея — драўляны Караткевіч. Маэжнаваты пісьменнік-зямляк у берэце і паліто запальвае цыгарэту. Побач — чамадан. Прыехаў на радзіму.

Дарога на Друцк ляжыць міма былога базыльянскага кляштара. У аўтэнтычнай браме — круглыя адтуліны для засоваў-бярвёнаў. Засовы не дапамаглі: цяпер тут храм РПЦ. Бліжэць цыбуліны на вежах, ідзе актыўны рамонт, ходзяць багамолкі. «Кошка, ну а ты куды!» — абураецца бацюшка, перашкаджаючы белай котцы пратачыцца ў прахалодны храм.

### Нязбытая сталіца

Друцкае гарадзішча, як горны хрыбет, бачнае за некалькі кіламетраў. Калі б лёс быў больш літасцівы да Друцка, мы, магчыма, мелі б сёння тут сталіцу. Тады Машэраў скапаў бы гэтыя валы, а Друцкія палі распалавініў бы ампірны праспект...

Друцк у Сярэднявеччы быў канкурэнтам Менска і нават Полацка, і не раз ваенная ўдача ўсміхалася друцкім князям.

Поспех Друцка вызначаўся эканомікай. Па Друці плылі ў Дняпро тавары са Скандынавіі, Балтыі, Полаччыны, Друцк быў буйным цэнтрам гандлю, у тым ліку, лічыць гісторык Алег Дзярновіч, гандлю рабамі. Удзельныя князі прыганялі сюды палон, захопленыя ў міжусобных сутычках, каб прадаць на паўднёвыя рынкі. А часам для папраўкі матэрыяльнага становішча маглі прадаць і ўласных падданых.

Тут бывалі Вітаўт і Ягайла. Апошні менавіта ў Друцку пазнаёміўся са сваёй апошняй жонкай з роду Гальшанскіх, з якой заснаваў дынастыю Ягелонаў.

Тут у часы Вітаўта і Ягайлы з'явілася Евангелле, якое знаходзіцца цяпер у Сібірскім аддзяленні Расійскай Акадэміі навук.

У момант найбольшага росквіту, у XVI ст., горад меў 7 вёрстаў у акружнасці (каля 11 км, для параўнання МКАД — 56,2 км), дзясяткі храмаў.

Першы раз Друцк быў спалены ў 1524-м, падчас вайны з Масковіяй. За наступнае стагоддзе яго выпальвалі раз за разам, пакуль не засталіся адны руіны.

Пасол Ватыкана, які ехаў побач у XVIII стагоддзі, параўнаў іх з руінамі Троі.

### Вайсковая база XVII стагоддзя

На друцкае гарадзішча можна заехаць машынай праз браму. Дарога пасля спускаецца да асвячонай крыніцы з бетоннай купеллю. Дзе-нідзе відаць рэшткі імітацый пад старажытнасць, пастаўленых да святкавання 1000-годдзя Друцка, у 1992-м. Брамы парасліпаўзаліся, частаколы з бярвення пахіліліся, вежу-альтанку з каркаломнай вышыні вала скінуў вецер.

**Друцк**

Першая згадка ў летапісе — 1092. Горад у складзе Полацкага княства, у XII ст. цэнтр самастойнага ўдзельнага княства. У 1158 адбіў напад полацкіх войскаў князя Расціслава Глебавіча. У складзе ВКЛ быў буйным палітычным, эканамічным і культурным цэнтрам. У XVI—XVII ст. шмат разоў разбураўся падчас войнаў між ВКЛ і Масквой. Замак перастаў існаваць у XVII ст.


Старадаўні крыж каля царквы ў Друцку. Хто пад ім ляжыць?




**Мсціслаўскі касцёл Унебаўзяцця Марыі з фундатарскім надпісам 1654 года — у той год у горад увайшло маскоўскае войска ваяводы Трубяцкога і выразала 10 тысяч каталікоў.**

Зверху можна агледзець славутыя Друцкія валы, такі аналаг вайсковай базы XVI—XVII ст. Сюды на заклік вялікага князя збіралася для агляду і паходу войска ВКЛ. А калі змянялася геапалітычная сітуацыя, тут жа збіралася маскоўскае войска, каб пайсці далей на захад.

Друцк цяпер — вёска з густоўнай драўлянай царквой пачатку 90-х і ўстановай адукацыі, пры якой — сімпатычныя бярозавыя зайцы з Дзедам Мазаем, відаць, крэатыў мясцовага працавіка.

Каля царквы — урослы ў зямлю каменны крыж. Як напамін, што старажытны Друцк з яго сарака цэрквамі не толькі там, дзе валы, але і тут, пад нагамі. У ссунутай экскаватарам купе зямлі пры канцы чыйгосьці ўчастка — аскепкі дробнай керамікі і косткі.

### Дзесяць тысяч каталікоў

Мсціслаў мы заспелі ў пекле падрыхтоўкі да абласных Дажынак. Пыл слупом — мяняюць камунікацыі, кладуць плітку, акультурваюць цэнтральны сквер. Сярод хаосу пацікае хлапечымі плячамі скульптура Пятра Мсціслаўца, нібы кажа: што я тут раблю? Над навядзеннем парадку высіцца руіна езуіцкага касцёла — аграмадзіна, параўнальная з Будславам ці Друяй. Вежы абадраныя, цэнтральны ўваход наглуха закладзены сілікатам, над ім прыступае кляймо савецкага часу — надпіс «Слава народу-победителю». Савецкі народ-пабядзіцель таксама адыходзіць у нябыт, як колісь езуіты.

Бюджэту Дажынак на рамонт касцёла яўна малавата. Дый ці будзе паства? Недалёка — кармеліцкі касцёл Унебаўзяцця Марыі, ён дзейны. На пабеленым фасадзе адкрыты стары фундатарскі надпіс 1654 года. Таго самага года, калі Масковія склала хаўрус з Хмяльніцкім. Тады ў Мсціслаў увайшло расійскае войска і, згодна са справаздачай яго ваяводаў, выразала дзесяць тысяч каталікоў.



**«Магіла невядомага рыцара»** на Мсціслаўскім замчышчы. Яго парэшткі разам з даспехамі былі знойдзеныя ў рацэ Віхры. Імаверна, ён загінуў падчас Мсціслаўскай бітвы 1501, калі аддзелы князя Заслаўскага і Астафея Дашкевіча процістаялі маскоўскаму войску Івана III. Маскоўцы перамаглі, але Мсціслаў узяць не здолелі.

На гарадзішчы пад Дажынкі адбудоўваюць рэальнасць XII стагоддзя — на бетонных падмурках паўстануць вежы, хаткі, царква з кругляка. У гарадзішча заліваюць сваі, ляжыць гара вывернутай з катлавана чорнай археалагічнай зямлі.

### Мсціслаўскі люкс

З-за Дажынак усе нумары ў гатэлі «Мсціслаў» занятыя будаўнікамі. Вольныя толькі люксы. Нумар люкс каштуе каля 30 рублёў і складаецца з: 1) калідора, 2) перадпакоя з канапай, двума фатэлямі, тэлевізарам і паўтараметровым халадзільнікам «Мінск» (выключаным, без мінібара), 3) спальнага пакоя з двума ложкамі і тумбачкамі, 4) калідорчыка з убудаваным гардэробам, 5) санвузла з душам.

Канструкцыя душа вызначаецца арыгінальнасцю. Душавы шланг ляжыць у ракавіне ўмывальніка, побач у падлозе — дзірка для сцёку вады. Каб не запырскаць дзверы і сцяну падчас мыцця, маецца шторка. Высвятліць, ці ўсётакі ёсць гарачая вада, не хапіла цярпення. Адсутнасць інтэрнэту засведчылі на рэцэпцыі. Затое ў нумары — два балконы. Інтэрнэт цяпер трэба ўсім. А каму трэба два балконы?

З акна добра чуваць начное жыццё Мсціслава, арганізаванае вакол інтэрната будтэхнікума, начной кавярні і скверыка з драўлянымі мядзведзямі і сланом з таго ж матэрыялу.

### Святы Ануфры

Едучы ад Мсціслава да Крычава, не пашкадуйце часу, завітайце ў Ануфрыева. Далёка з дарогі відаць званіца царквы з буслянкай наверсе. Першапачатковы храм тут загадаў будаваць мсціслаўскі князь Сямён-Лугвен Альгердавіч, той самы герой Грунвальда, што камандаваў трыма смаленскімі палкамі, якія вытрымалі націск крыжакоў. Згодна з легендай, у гэтым месцы яго сыну Юрыю, што заблукаў у лесе, з'явіўся святы Ануфры і вывеў на дарогу.

У XVIII—XIX ст. тут паўстаў мураваны храм і кляштар. У пачатку XXI ён стаіць без даху. Глядзіш на яго аркі і скляпенні — і няма адказу, ці сёння ў Беларусі яшчэ ўмеюць так будаваць.

У Крычаве, як зрэшты і па іншых раённых гарадах, кідаецца ў вочы геральдыка ў афармленні вуліц. Гарадскі герб на шыльдзе пры ўездзе, на расцяжках і плакатах. Магдэбургская традыцыя. Хоць Крычаў быў горадам прыватным, радзівілаўскім. І ён трывала асацыюецца з паўстаннем Вашчылы. Цікавы факт: аказваецца, скінуўшы арандатараў Іцкавічаў, якія дралі па тры скуры з сялянаў староства, Вашчыла з паплечнікамі сам кіраваў ім. Яны плацілі даніну князю Гераніму Фларыяну Радзівілу, а таму і справы не было да «антыфеадальнага паўстання». Толькі калі яно пачало пашырацца, ён хутка і жорстка зрэагаваў. Васіль Вашчыла, які называў сябе ўнукам Хмяльніцкага, уцёк у Масковію і даводзіў, што ён падданы маскоўскага цара, каб пазбегнуць выдачы на суд. А пакуль цягнулася перапіска, памёр у Кіеве падчас эпідэміі.

Крычаўскія вуліцы сапраўды пакручастыя ў старой частцы, выгінаюцца ў кірунку Слаўгарада.



Класіцыстычная званіца Ануфрыеўскага манастыра п.XIX ст. У той час Ануфрыева было цэнтрам уніяцтва ўсёй Расійскай Імперыі: архімандрыт Ануфрыева Іраклій Лісоўскі быў адначасова ўніяцкім мітрапалітам.

### Змей Сож

Слаўгарад-Прапойск ляжыць на Сажы. Дакладней — стаіць над ім. Дарога да яго ўзвышаецца над поймай вялікай ракі, парослай старымі дубамі. А з агляднай пляцоўкі, уладкаванай проста ў цэнтры горада, відаць, як у нізіне на дзясяткі кіламетраў выгінаецца Сож — вялізны, няспешны і загадкавы, як сусветны змей Ёрмунганд.

Пры ўсёй любові да зялёных насаджэнняў: калі б высекчы дрэвы вакол пляцоўкі, панарама ўражвала б яшчэ мацней.



**Ілжэдзмітрый I пачаў сваю палітычную кар'еру ў Прапойску.**

Прапойск, не раз спалены ў часе маскоўскіх войнаў, быў і месцам рэалізацыі старадаўніх паліттэхналогій: тут у 1607 быў упершыню зафіксаваны Ілжэдзмітрый I, з якім беларуска-польская шляхта заехала аж у Крэмль. А праз сто гадоў паблізу адбылася славутая бітва каля Лясной: з-за бяздарнай палітыкі караля-саксонца Аўгуста II дзве суседнія дзяржавы, Расія і Швецыя, дваццаць гадоў мераліся тут сіламі, вытоптваючы землі Рэчы Паспалітай.

### Латушка не паспеў

Быхаўскі замак — наглядная ілюстрацыя таго, як з ад'ездам Паўла Латушкі ў Францыю праграма «Замкі Беларусі», якую ён ініцыяваў на пасадзе міністра культуры, накрылася медным тазам.

Рэстаўрацыі паддаліся дзве трохпавярховыя вежачкі пры ўваходзе. Замкавыя будынкі завесілі расцяжкай, на якой напісана, што замак рэстаўруецца. Калі яе адхінуць і зайсці ўсярэдзіну, пабачыш, што ніякай дзейнасці ўжо не вядзецца. І ацэніш узровень рэстаўратараў: там, дзе скляпеністыя столі паабвальваліся, іх замянілі залітыя з бетону. Зрэшты, на плакаце, які маскіруе замак, напісана, што работы маюць скончыцца ў 2018-м. Ёсць яшчэ два гады. Недалёка стаіць з забітымі вокнамі ўнікальная абаронная сінагога, юдэйская сястра Сынкавіцкай царквы.

У Быхаве мы, дарэчы, зразумелі, хто харчуецца ў тых пустых звычайна раённых рэстаранах — трапілі туды якраз у райвыканкамаўскі абед.

### Акацыі на гарадзішчы

Знайсці рагачоўскае гарадзішча проста: трэба, не паварочваючы, праехаць праз увесь горад па галоўнай вуліцы. Узыходзім па прыступках, наверсе цвітуць старыя акацыі. Замак ставілі на сутоку Дняпра і Друці — цяпер да таго сутоку пара кіламетраў: у нізіне і вуліцы, і людскія гароды на чорнай глеістай зямлі. Але раптам пад самым замчышчам з-пад дзірвана паказваецца крушня ссохлых малюскаўбяззубак — як напамін пра хвалі, якія некалі біліся аб гэтыя валы.

Рагачоў палілі і ў 1639, і ў памятным па Мсціславе 1654-м. Усё сплыло дняпроўскай вадой. Сонны чэрвень вісіць над горадам, паўголы народ сунецца няспешна па сваіх справах. «О! По-белорусски говорите? Прікольно! — здзіўляецца чарнявы кавалер супрацоўніцы кафетэрыя, якому мы перапынілі залёты сваёй замовай. — А я вот мало что понимаю, в Казахстане родился». «У меня малая в белорусском классе, — падхопліваае прадавачка. — Я посмотрю в её учебнікі — нічего не понімаю!»

«Нічога, прывыкнеце», — запэўніваем мы іх і на развітанне ўсміхаемся адно аднаму.



Быхаўскі замак звонку...



...і ўсярэдзіне.

**Абарона Быхава**

Пачалася ў жніўні 1654, доўжылася 11 месяцаў. Ад маскоўска-казацкага войска Івана Залатарэнкі горад баранілі шляхта, 18 харугваў мяшчан, сяляне, 1000 найманых пехацінцаў і 1000 яўрэяў. Трымаліся цвёрда, ведаючы пра лёс вакольных гарадоў, узятых маскоўцамі. На абяцанні і пагрозы самога маскоўскага цара не рэагавалі. У часе адной з іх вылазак быў смяротна паранены Залатарэнка. Аблогу знялі ў сувязі з Віленскім замірэннем 1656. За мужную абарону кароль Ян Казімір на 20 гадоў вызваліў Быхаў ад падаткаў.

**Здымкі Паўліны Купрысь**

# «Некалькі хвілінаў — і ўсё, няма людзей»

## Пад Крупкамі шэсць мужчын адзін за адным лезлі ў каналізацыйны калодзеж. І не вярталіся

Няшчасны выпадак у вёсцы Каменка забраў жыцці шасцярых чалавек: чатырох вяскоўцаў і двух ратавальнікаў.

Увечары 28 чэрвеня 43-гадовы Сяргей прыйшоў з працы. Ён працаваў кіроўцам на «Белтрансгазе», газакампрэсарнай станцыі. Павячэраў, а затым вырашыў разабрацца з каналізацыяй, якая нешта забілася. Мужчына выйшаў з хаты, улез у калодзеж. Што адбылося далей, дакладна невядома.

Знікненне мужа заўважыла жонка. Яна адразу паслала дзяцей да суседзяў па дапамогу.

Прыбеглі двое суседзяў — 65-гадовы пенсіянер Пятро Кулікоўскі і ягоны зяць, 34-гадовы Дзяніс Лявоненка, які якраз прыехаў да сваякоў у адпачынак.

«Прыбегла іх дачка, крычыць: «Тата зваліўся ў калодзеж, тоне!» — кажа Алена Вацлаваўна, жонка Кулікоўскага.

«Мо яны спачатку і не зразумелі, што за калодзеж? Я сама падумала, што той, які з вадой, праврала», — кажа жанчына. Сама яна таксама пабегла за сваімі мужчынамі. Як яны лезлі ў калодзеж, пабачыць не паспела, але мяркуе, што Дзяніс, маладзейшы, прыбег першым і палез уніз. А за ім кінуўся і яе муж Пятро.

«Я паспела толькі пачуць, як муж ускрыкнуў: «Дзяніс!..» Падбягаю — а там ужо ні аднаго, ні другога не відаць...» — кажа яна.

Выклікалі ратавальнікаў, хуткую. Пачалі збірацца людзі на шум. Малады хлопец, што жыў незадалёк, 23-гадовы Віктар, таксама прыбег. І адразу вырашыў дзейнічаць.

«Мамента туды ўскочыў, яму ніхто не паспеў і сказаць, каб не лез. А там жа газ скапіўся — і капец!» — расказаў «Нашай Ніве» іншы сусед.

Пасля гэтага людзі стаялі вакол калодзежа, але лезці туды ніхто не рызыкаваў.

«Крычалі, што людзі там, а ратаваць няма каму, — кажа жанчына. — Там жа не было відаць нічога — целы былі ці то пад вадой, ці то пад той жыжай. Але гэта ўсё заняло некалькі хвілінаў. І ўсё, няма людзей...»





Той самы калодзеж. Намеснік старшыні Крупскага райвыканкама Анатоль Ганчар: «Там назапасіліся газы. І туды нельга было спускацца людзям без спецабсталявання».

Прыехалі ратавальнікі. Па словах жанчыны, ехалі яны каля 30 хвілінаў. У МНС абвяргаюць гэта — кажуць, першае падраздзяленне было на месцы здарэння ўжо праз 6 хвілінаў. Што ж, у свядомасці людзей такія хвіліны расцягваюцца ў вечнасць.

У Сяргея, гаспадара хаты, засталіся жонка і дзве непаўналетнія дзяўчынкі.

Суседка, Алена Вацлаваўна, страціла і мужа, і зяця. У іх з Пятром дачкі таксама засталіся без бацькі двое непаўналетніх — дзяўчынка і хлопец, інвалід з дзяцінства.

### «Там сабраліся газы»

Наступнай раніцай пасля трагедыі ля таго калодзежа ўжо сабраліся і журналісты, і мясцовыя чыноўнікі. Прыехалі і псіхолагі, якія працавалі з сем'ямі пацярпелых.

«Мы прыязджалі сюды і ўчора, былі тут у 22.40, — расказаў Ігар Часнок, старшыня Крупскага райвыканкама. — Я тут, каб аказаць дапамогу людзям, эмацыйную, псіхалагічную. Каб спытаць, што трэба, чым дапамагчы. Каб аддаць апошнюю даніну пашаны і павагі загінулым. Дапаможам усім, чым зможам, дамо ўсё, што папросяць, арганізуем пахаванне».

Папярэднюю версію здарэння агучыў намеснік старшыні Крупскага райвыканкама Анатоль Ганчар.

«Мяркуем, што гаспадар пабачыў, што не працуе сцёк каналізацыі. Ён адкрыў люк і паспрабаваў знайсці трубу, каб яе прачысціць. Але калодзеж вялікі. Глыбіня яго — каля 6 метраў. Дыяметр — каля 1,5 метра. І там назапасіліся газы, ад якіх гаспадар страціў прытомнасць.

Гэта можна параўнаць з тэхналогіяй здабычы біягазу. Былі ж высокія тэмпературы, за 30 градусаў, амаль тыдзень. Адкіды ў калодзежы забрадзілі — і пайшоў газ. І туды нельга было спускацца людзям без спецабсталявання.

Прычым гаспадар дома працаваў на газакампрэсарнай станцыі, праходзіў там навучанне. Але, хутчэй за ўсё, проста не падумаўшы палез... Бо ёсць жа інструкцыя, што нельга лезці ў такі калодзеж, не адпампаваўшы адкіды і без спецродкаў. Але ў жыцці часам адбываецца, на мой вялікі жаль, вось так...» — паведаміў Ганчар.

«Затым паступіў выклік у МНС. Першая група прыбыла, у байца МНС быў балон з кіслародам, маска. Ён палез у калодзеж. Але ці то яму было цяжка спускацца, ці то абсталяванне не дазволіла яму апаратыўна дзейнічаць...

Аднаго пацярпелага ратавальнік абвязаў вяроўкай і выцягнуў, а затым сам адчуў сябе блага. Што дакладна здарылася — не ведаю. Але, можа, зачапіў дзесьці маску, яна з'ехала, можа, яшчэ што...

Можа, і настолькі высокая канцэнтрацыя газаў была. Але ж яго выцягнулі наверх з калодзежа [гэты ратавальнік застаўся жывы — НН]. А як так выйшла, што двое байцоў туды потым трапілі без абсталявання?..»

### «І яны адразу да калодзежа…»

Аб прыездзе ратавальнікаў нам эмацыйна распавялі суседзі.

«Прыехалі тыя пажарныя... Чаго яны прыехалі без абсталявання? Пажар тушыць? Ні храна ў іх не было, нават бусака.

Але ў аднаго быў балон з кіслародам, маска, усё як след. Ён палез, аднаго мужыка дастаў. І вось той ратавальнік вылез, зняў маску, трохі аддыхаўся... Тут яшчэ некалькі машын пажарных прыехала.

І яны адразу да калодзежа, і палезлі туды без усякага, без масак, без храна. І адзін там застаўся, і другі... Іх адразу дасталі бусаком, павезлі ў бальніцу», — паведаміў адзін з суседзяў Віктар.

Двое герояў-ратавальнікаў — гэта работнікі Крупскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях: 24-гадовы лейтэнант унутранай службы Аляксандр Шымански і 26-гадовы старшына ўнутранай службы Андрэй Сліборскі **(на фота)**.

Але медыкі ўжо не здолелі дапамагчы. Не прыходзячы ў прытомнасць, ратавальнікі памерлі ў бальніцы.

Загінулых вяскоўцаў пахавалі 30 чэрвеня. Па факце здарэння Следчы камітэт пачаў крымінальную справу па артыкуле «Прычыненне смерці па неасцярожнасці». Расследаванне знаходзіцца на асабістым кантролі старшыні СК Наскевіча.

**Улад Швядовіч, Каменка — Мінск**

## Сцісла

### Гібель праз выдру

Ноччу 30 чэрвеня ў Пружанскім раёне «Фальксваген Шаран» наехаў на выдру. Машына ў выніку з'ехала ў кювет і ўдарылася ў дрэва. 39-гадовага кіроўцу дэблакавалі ратавальнікі, яго 37-гадовая жонка загінула на месцы.

### У Брэсце затрымалі вярбоўшчыка «Ісламскай дзяржавы»?

У Брэсце затрымалі 22-гадовага чачэнца, які падазраецца ў вярбоўцы баевікоў для «ІД». Аперацыю праводзілі разам з расійскімі сілавікамі. Паводле іх інфармацыі, у сябе на радзіме малады чалавек працаваў на забароненую тэрарыстычную групоўку. З Масквы да Мінска затрыманы прыехаў на маршрутным таксі. Тут перасеў на цягнік і збіраўся трапіць у Польшчу. Цяпер яго вышлюць у Расію, дзе будуць судзіць.

### Абрабаваў сваю цётку

У Мінску 16-гадовы хлопец разам з сябрам напаў на сваю цётку. Раней жанчына-інвалід, якая ўжо на пенсіі, не мела блізкіх зносін з пляменнікам, але, як толькі даведалася, што хлопчык патрапіў у інтэрнат (сям'ю прызналі сацыяльна небяспечнай), стала часцей з ім бачыцца і даваць грошы. Хлопец ведаў, калі ў яе будзе пенсія, дык падсцярог і вырваў сумку, дзе было 800 тысяч рублёў. Цяпер яму пагражае да 8 гадоў.

### «Казак» з Дубоя

У Маскве затрымалі «казацкага генерала» — 50-гадовага ўраджэнца вёскі Дубой Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Ён прапанаваў расійскай кампаніі за мільён еўра вырашыць яе праблемы з італьянскім партнёрам нібыта праз свайго земляка-суддзю ў Арбітражным інстытуце гандлёвай палаты Стакгольма (Міжнародны арбітражны суд Стакгольма). Следства мяркуе, што гэта было махлярства ў вельмі буйным памеры. Новікаву пагражае да 10 гадоў пазбаўлення волі.

### Дробныя хуліганы ў Нацыянальнай бібліятэцы

Госці бібліятэкі, расійскія падлеткі, у літаральным сэнсе слова апляваліі выставу «111 год кітайскаму кінематографу», якая дзейнічае ў мастацкай галерэі «Атрыум» на трэцім паверсе Нацыянальнай бібліятэкі. Хлопцы-спартоўцы былі ў будынку на экскурсіі. І знайшлі сабе забаўку: сядзелі ў крэслах і ладзілі спаборніцтвы па даўжыні пляўкоў. Як вынік — апляваная падлога і два выставачныя плакаты, што віселі на сцяне.

Ад грубіянаў пацярпела і супрацоўніца бібліятэкі. Жанчына пачула нецэнзурную лексіку і зрабіла заўвагу, аднак хлопцы адказалі ёй брыдкай лаянкай.

Ахова іх затрымала. На пытанне, з якой мэтай хлопцы зрабілі свой абразлівы ўчынак, — прамаўчалі. Ахоўнікі змусілі падлеткаў узяць туалетную паперу і выцерці пляўкі.

### Легкавік «прабіла» адбойнікам на трасе М1

58-гадовы мінчук на «Фіяце Брава» наехаў на загараджальны металічны брус. У выніку жонка кіроўцы на заднім пасажырскім сядзенні загінула на месцы ДТЗ.

### Небяспека: маскітныя сеткі

У Мінску з акна 6-га паверха выпала дзяўчынка чатырох з паловай гадоў. Бацькі літаральна на хвіліну адвярнуліся, а дзіця абапёрлася на маскітную сетку і выпала. Цудам дзяўчынка засталася жывая!

А ў Гродне іншая дзяўчынка залезла на дзіцячы столік, а затым на падваконне адкрытага насцеж акна, што было зацягнута маскітнай сеткай. Потым яна абаперлася рукамі аб сетку, тая не вытрымала і парвалася. Малая загінула.

А ў Кобрынскім раёне, у вёсцы Быстрыца, у ямцы для палівання гароду, хоць і была ўглыбкі метр, загінула 4-гадовае хлапчанё. Баба не ўпільнавала.

**УШ; СГ; БЯ**



# Камітэт дзяржкантролю: Інфармацыя «Нашай Нівы» аб парушэннях у Касцюковіцкім раёне пацвердзілася, ідзе праверка

Па даручэнні Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь Камітэтам дзяржкантролю Магілёўскай вобласці сумесна з Магілёўскім аблвыканкамам, пракуратурай Магілёўскай вобласці, праваахоўнымі і кантралюючымі органамі разглядаецца зварот прыватнага выдавецкага ўнітарнага прадпрыемства «Суродзічы» (рэдакцыя газеты «Наша Ніва») аб парушэннях і злоўжываннях у Касцюковіцкім райвыканкаме і сельгасарганізацыях Касцюковіцкага раёна.

Падчас правядзення кантрольна-аналітычных мерапрыемстваў пацвердзілася выкладзеная ў звароце інфармацыя аб неабгрунтаваным прэміраванні старшынёй Касцюковіцкага райвыканкама кіраўнікоў сельгаспрадпрыемстваў (факты выяўлены ва ўсіх 6-ці гаспадарках раёна), скажэннях гаспадаркамі статыстычнай справаздачнасці адносна аб'ёмаў нарыхтоўкі кармоў, вытворчасці малака і мяса (у 4-х гаспадарках), парушэннях патрабаванняў ветэрынарнага і санітарна-эпідэміялагічнага заканадаўства на малочна-таварных фермах (ва ўсіх 6-ці гаспадарках) і інш.

У цяперашні час праверка выкладзенай у звароце інфармацыі працягваецца. Аб канчатковых выніках яго разгляду будзе паведамлена дадаткова.

**Намеснік старшыні КДК Магілёўскай вобласці А.А. Іглікаў**

### «На БТ пішуць, што незалежнасці 25 гадоў. Тады што святкуем 3 ліпеня?»

На беларускім тэлебачанні святочны лагатып: «25 гадоў незалежнасці Рэспублікі Беларусь». То бок ідэолагі прызнаюць, што незалежнасць пачалася ў 1991 годзе. Тады рытарычнае пытанне: што адбылося 3 ліпеня, калі гэты дзень запісаны як Дзень Незалежнасці?

**Анатоль М.**

### У дзень, калі кадэты…

Хацеў падзяліцца думкай. Не памятаю дакладна даты, але каля года таму хлопцы з кадэцкай вучэльні (4 чалавекі) «Пагоню» прадэманстравалі на майках пад формай. Што, калі зрабіць штогадовы дзень «Пагоні» менавіта ў гэты дзень і ўсім вось так майкі з ёй насіць?

**Юры Коцур**

### Da pytannia prybirańniaŭ

Na ŭjezd u RB (na punkcie «Katloŭka» dakladna) niama prybirańniaŭ. Prajazdžajučy čerhi z furaŭ, stojačy ŭ čarzie z liehkavikoŭ i nazirajučy, jak ludzi «chodziać» u lies, padumalasia: biedny-biedny lies. Skazala pamiežniku bielaruskamu ab prybirańniach. Adkazaŭ, što heta kampietencyja nie jichniaj służby.

**Liudvika K., Astraviec**

**Палеміка**

# Георгій Рой: Рэч Паспалітую разбурыў каталіцкі фанатызм і польскі шавінізм, а Каніскі быў проста абаронцам сваёй веры

Не магу не выказацца адносна нядаўняй публікацыі на сайце «Нашай Нівы», якая тычыцца асобы свяціцеля Георгія Каніскага. Не магу пагадзіцца з прадузятай і ангажаванай пазіцыяй аўтара артыкула, які называе свяціцеля «агентам уплыву», «шэрым кардыналам» і г.д. Мы можам даваць розныя гістарычныя і палітычныя ацэнкі таму ці іншаму дзеячу ці нават самім гістарычным фактам. Але калі мы жадаем быць аб'ектыўнымі, то абавязаны разглядаць тую ці іншую асобу, факт у пэўным гістарычным кантэксце, які дазваляе па-сапраўднаму зразумець рэальныя падзеі і памкненні.

Дык вось, свяціцель Георгій Каніскі быў грамадзянінам сваёй дзяржавы — Рэчы Паспалітай. Але грамадзянінам другога гатунку. Чаму? Толькі праз тое, што трымаўся веры айцоў, якую ганьбілі і гналі. Адзінае, што ён рабіў, — абараняў сваю праваслаўную веру. Ён стаў закладнікам тых палітычных абставін, якія стварыў не ён.

Колькі разоў на сеймах праваслаўныя дэпутаты падымалі пытанне пра раўнапраўнасць усіх цэркваў і народаў у Рэчы Паспалітай?! І колькі разоў як быццам бы здавалася, што згода магчымая? Але чым скончваліся гэтыя прапановы і праекты? Новымі і новымі ўціскамі. Фанатычна і шавіністычна настроеныя колы не маглі пагадзіцца з тым, каб старажытная вера і «руская» — чытай: беларуска-украінская — культура набылі роўныя правы з культурай і рэлігіяй польскай, ці нават уніяцкай. Замест згоды, талерантнасці і міру пачыналіся ўсё новыя і новыя хвалі ціску на дысідэнтаў. А дысідэнты трымаліся як маглі, нягледзячы на падчас жудасныя здзекі ад сваёй дзяржавы.

Менавіта недальнабачныя і фанатычна настроеная палітыкі Рэчы Паспалітай зрабілі магчымым выкарыстоўваць рэлігійнае пытанне для палітычных мэтаў суседніх дзяржаў. Гэта факт. Вядома, у гісторыі не бывае «калі б»… Але я ўпэўнены, калі б палітыка Рэчы Паспалітай была талерантнай да «рускага народу» і яго законных правоў на веру і культуру, то напэўна гісторыя Рэчы Паспалітай была б зусім іншай.

Мы, праваслаўныя беларусы, шануем свяціцеля Георгія як абаронцу нашай веры і Праваслаўнай царквы.

**Айцец Георгій Рой, Гродна**



### Памяці Жэні Пліскі

Дзякуй усім за добрыя словы пра Жэню (№24). Нам будзе яе вельмі не хапаць. Любіце Беларусь і нашу мову, як яна. Гэта і будзе лепшая ёй памяць.

**Міхал і Алена Пліска**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Ігар Барысаў: Плошча Арджанікідзэ мусіць называцца Касцярняй, а не плошчай Каніскага

Усё проста: у гонар Каніскага ў Магілёве ўжо названы Архіерэйскі вал і на гэтым вале ў гонар святара стаіць памятны крыж. Калі побач з'явіцца плошча ў яго гонар і паўстане новы помнік, то ці не будзе гэта перабарам Каніскіх у асобна ўзятым абласным цэнтры?

Беларусь з'яўляецца свецкай дзяржавай, і называць плошчы ў гонар святароў, тым больш вельмі супярэчлівых гістарычных персанажаў, не зусім карэктна.

Больш за тое, чалавека, які заклікаў імператрыцу суседняй дзяржавы ўвесці войскі ў нашую тагачасную дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае, — інакш як прадстаўніком пятай калоны назваць не выпадае.

Называць плошчы ў гонар святароў можна ў дзяржаве, дзе ёсць асноўная рэлігія, самастойная царква, істотны ўнёсак асобы ў развіццё грамадскай думкі, у жыццё краіны і горада. Калі гэтага няма ў комплексе — варта падвяргаць крытыцы любую асобу.

Мы жывём у шматканфесійнай краіне, дзе побач з праваслаўнымі стагоддзямі жылі каталікі, пратэстанты, мусульмане і іўдзеі. Сярод гэтай масы рэлігій мірна ўжываецца 48% сучасных беларусаў, якія не належаць ні да якой з канфесій. Колькасць жа прыходаў пратэстанцкіх арганізацый у Магілёве перавышае колькасць прыходаў Рускай праваслаўнай царквы. І гэта выключна статыстыка. Чаму тады плошчу не назваць у гонар Марціна Лютэра ці Францыска Скарыны альбо ў гонар каталіцкага святара Богуш-Сестранцэвіча? Вернікі-пратэстанты і вернікі-каталікі з задавальненнем падтрымаюць падобныя прапановы.

Пакуль большасць прапановаў, якія разглядаюцца ў гарвыканкаме, выглядаюць ідэалагічнымі крайнасцямі.

Любое дзеянне ў першую чаргу павінна ацэньвацца зыходзячы з рэальнасці і з пазіцыі таго, кім мы з'яўляемся цяпер і дзе мы знаходзімся. Мы — незалежная краіна, а ў незалежнай краіне мусяць быць свае героі, якія павінны быць ушанаваныя ў першую чаргу. Мы не павінны ў гэтым пытанні азірацца на суседзяў і чакаць іхняга дазволу альбо асуджэння.

У Магілёве няма помнікаў Янку Купалу, Цішку Гартнаму, Аркадзю Куляшову, Аркадзю Смолічу, Максіму і Гаўрылу Гарэцкім, Пора-Левановічу і легендарнаму Машэку, з якім звязана паданне аб узнікненні горада. Няма ў горадзе плошчы Незалежнасці і плошчы Свабоды. Мы жывём у двух савецкіх раёнах — Ленінскім і Кастрычніцкім, а ветэранскія арганізацыі горада не губляюць імпэту, каб назваць усе вуліцы ў гонар генералаў…

Плошча Арджанікідзэ ў Магілёве гістарычна называлася Касцярняй і ніяк інакш. А калі не Касцярняй, то не чапайце Арджанікідзэ, бо ні ён, ні Каніскі — для станаўлення сучаснага беларускага народа нічога не зрабілі.

**Ігар Барысаў, Магілёў**

# Самаізаляцыя не выхад. Ні для Брытаніі, ні для Беларусі



Піша Андрэй Дзмітранок.

Брытанія зрабіла гэта. Падданыя Яе Вялікасці Лізаветы прагаласавалі за выхад з ЕС, чым спарадзілі рух, здольны прывесці да тэктанічных зменаў не толькі ў Еўропе, але ва ўсім свеце. Адбылося тое раптоўна і нечакана, як у тым «Ледавіковым перыядзе», дзе простая вавёрка ў жаданні паласавацца арэхам выклікае глабальныя пераўтварэнні. Толькі тут замест арэха былі папулісцкія словы пра вяртанне сапраўднай Вялікай Брытаніі.

Брытанія пакідае ЕС, так вырашылі людзі сталага ўзросту, і гэта прынцыпова. Не занятак, не месца жыхарства і не вера, а менавіта ўзрост вырашыў усё. Памятаеце жарт пра пашпарт бабулі? Галасавалі сэрцам, а не розумам: не было ніводнага добрага прагнозу развіцця краіны ў выпадку сыходу з ЕС, і прагназаваныя цяжкасці ў эканоміцы пачаліся адразу пасля абвяшчэння вынікаў рэферэндуму. Буйныя кампаніі ўжо пераводзяць свой персанал і капіталы на кантынент, фунт страчвае сваю вартасць.

На гэтым фоне Еўрасаюз, пакрыўджаны, зробіць усё, каб наступствы былі адчувальнымі для брытанцаў.

Чаго дамагаліся брытанцы, аддаючы свае галасы за выхад? Велічы і права кіраваць сваёй краінай? Раней брытанцы скардзіліся на бюракратаў з Брусэля, зараз яны будуць незадаволеныя бюракратамі Лондана. Між тым без удзелу ў эканамічных і палітычных саюзах у наш час уплывовай краінай не станеш. Так, ёсць Нарвегія, заможная і ўтульная для сваіх грамадзян. Але Нарвегія мае гіганцкія запасы нафты. Ёсць Швейцарыя — яна мае гіганцкія банкаўскія рэсурсы. А брытанская эканоміка — зусім не такая.

За сто гадоў ад былой велічы брытанскай кароны нічога не засталося: калоніі паадпадалі, так і чакай, Шатландыя з Паўночнай Ірландыяй сыдуць.

Ла-Манш, адсутнасць шэнгену і свая валюта дазвалялі праводзіць сваю палітыку, дамаўляцца. Гэтага болей не будзе: брытанцы сваім галасаваннем звялі сваю палітыку з глабальнага да пенсіянерскага клопату, што дбае

## Партал уваходу ў Беларусь знаходзіцца недзе ў Берлінах

пра стабільнасць і кансервацыю. А як быць маладым, якія прагнуць адкрытасці і глабалізацыі рынкаў і магчымасцяў? Між тым, гэта 48% актыўных людзей, вымушаных жыць страхамі пакалення, што сыходзіць. Цяпер Лондан — фінансавы і эканамічны цэнтр Еўропы, але без сувязей і ўплыву ў справах Еўропы, цалкам імаверна, статус можа змяніцца.

Пра ўсё гэта нехта з чытачоў можа сказаць: «А што беларусам з таго? Нам не горача, не халодна, як працавалі, так і працягнем». Скажа, а потым прачытае навіну пра непрададзеныя трактары...

Гэта ўсё — глабалізацыя, і закранае яна не толькі эканоміку. Лявон Вольскі даў інтэрв'ю, з якога стала зразумела, што нават такі папулярны музыка амаль не зарабляе грошай са сваёй творчасці. Канечне, палітыка, розныя абмежаванні, але іншага мы не маем і вымушаны жыць ў гэтых умовах. Выйсцем выглядае выключна экспансія, пашырэнне аўдыторыі за межы Беларусі, як тое робіць у музыцы Міхалок, у літаратуры — Марціновіч і Алексіевіч. Толькі набываючы моц і папулярнасць за мяжой беларус атрымлівае фінансавую незалежнасць і свабоду ў дзеяннях унутры краіны. Своеасаблівы партал уваходу у Беларусь знаходзіцца недзе ў Берлінах і Стакгольмах. Глабальная запатрабаванасць, як у беларускага сектара IT, урэшце працуе і на краіну.

Таму «брэксіт» як спроба самаізаляцыі не выйсце ні для брытанцаў, ні для нас, беларусаў, бо гэта супярэчыць часу.

# Саша: жыццё пасля пажару



Гэты тэкст — маналог дзяўчыны, якая жыве ў Мінску. Яе завуць Аляксандра Гушча. Ёй 29 гадоў. Яна працуе тэхнічным пісьменнікам у найбуйнейшай беларускай IT-кампаніі. Мае айфон, айпэд, котку, фотаапарат, арбалет, татуіроўкі на целе і г.д. Яна шмат пераязджае з кватэры на кватэру. Яе лад жыцця — амаль такі самы як і ў тысяч «трыццацігадовых» беларусаў. У 2012 годзе мы пазнаёміліся з ёй на адным семінары, дзе я чытаў лекцыю па фотажурналістыцы.

Аляксандра збіраецца ў сваёй старой здымнай кватэры на работу ў офіс. Чэрвень 2012.

«Мае бацькі прыехалі ў Мінск з вёскі. Мама з Калінкавіч. Тата з вёскі Паташня, гэта Чарнобыльская зона. Вёску пазней рассялілі. Я — трэцяе дзіцё ў сям'і. Жылі мы ў той час у палове прыватнага дома ў Лошыцы. На той час гэта быў добры варыянт для прыезджых. Але дом быў стары, старыя камунікацыі. Старая праводка...

Калі мне было 11 месяцаў, тата быў на працы, браты-сёстры — у школе, мама — вешала бялізну на двары... У доме пачаўся пажар —кароткае замыканне... Пачала выбухаць тэхніка. Моцны пажар. Загарэўся дах. Я спала ў калясцы на верандзе... На каляску ўпала бэлька са столі... У мамы здарыўся інфаркт, яна ўпала проста на вуліцы...

Сусед, які пабачыў пажар, выбіў шкло, ускочыў у дом і выцягнуў мяне ў калясцы. У мяне абгарэла не шмат з тулава... Толькі галава і рукі, якімі я, дзіця, інстынктыўны прыкрыла сабе твар. Дактары потым казалі, што толькі так я захавала сабе зрок. Апёкі былі 4-й ступені да абвуглівання... Пальцы ў руках дактароў рассыпаліся... Абгарэлі косткі чэрапа... Дактары першыя паўгода не давалі мне шанцаў на жыццё. Яны і самі не верылі, што нешта будзе. Я бязвылазна жыла ў лякарні — некалькі гадоў. Дактары казалі, што ў мяне няма шанцаў на адэкватнае жыццё. Нягледзячы на гэта, я расла як звычайнае дзіцё. У 3 гады я чытала па складах...

Мама пачала пісаць лісты ў газеты і інстанцыі. Адзін з найважнейшых лістоў называўся «Дайце тату зарабіць». Яго апублікавалі ў Ленінградзе (на той час). Мама прасіла, каб майму тату проста далі добрую працу, каб былі грошы на маё лячэнне. Гэтую газету пабачыла адна доктарка з амерыканскай дзіцячай бальніцы «Шрайнэрс хоспітал» штата Арыгон. І нам даслалі пакет дакумантаў і запрашэнне на лячэнне. Увогуле, мяне шмат вазілі на кансультацыі ў Маскву і Піцер да пластычных хірургаў, у храмы, да бабак-шаптух, да цудатворных ікон... Відаць, гэта быў апошні шанец для маіх бацькоў.

Умовы лячэння ў ЗША былі такімі: нам даюць фінансаванне толькі на аперацыі. Жыллё, харчаванне, лекі — за наш кошт. Мая мама пачала «хаджэнне па пакутах». Яна абыходзіла заводы, фірмы, фонды, прыватнікаў з просьбай аказаць дапамогу на маё лячэнне. У яе ў руках былі стосы выразак з газет. Шмат дзе ёй прапаноўвалі проста ад мяне адмовіцца і здаць у інтэрнат...

У суме на сёння мой лічыльнік складае 39 аперацый. Першыя

**У доме пачаўся пажар — кароткае замыканне... Загарэўся дах. Я спала ў калясцы на верандзе... На каляску ўпала бэлька са столі... У мамы здарыўся інфаркт, яна ўпала проста на вуліцы...**



Саша (маленькая) з сястрой і братам за месяц да пажару.



Аляксандра разам з дзецьмі і Галінай Лукашэнка ў сярэдзіне 90-х. Тады дзяўчынкай апекавалася шмат добрых людзей.



Аляксандра з вазком у краме. Чэрвень 2012.

8 аперацый было зроблена ў Беларусі... Трэпанацыя... Ампутацыя пальцаў... Перасадка скуры... Яе бралі з ног, перасаджвалі на рукі, на твар... Большасць шнараў на маіх нагах — гэта наступствы перасадкі скуры.

У ЗША мне рабілі «хірургічную рэканструкцыю». У мяне не было носа. У дзяцінстве я выглядала як Волан-дэ-Морт з «Гары Потэра». У мяне быў плоскі твар і ноздры... Цяпер я магу пра гэта казаць... Мой нос зрабілі са скуры з ілба. У мяне доўгі час не было верхняй губы. Мне перасаджвалі часткі скуры на твар — проста перасаджвалі скуру з ног і сшывалі рот, каб зраслася і сфармавалася губа... Гэта было ўжо ў ЗША. Зашывалі вочы, каб скура прыжылася на твары... Я вельмі баюся страціць зрок...

На жываце выразалі скуру і пад яе зашывалі руку на некалькі дзён, каб там нарастала мышачная тканка... Спачатку адну руку. Потым другую. Гэта было вельмі балюча. Я ледзь не звар'яцела. Перавязкі — проста жах. Я крычала і білася ў істэрыцы, а на калідоры бальніцы тое ж рабіла мая мама... Пасля гэтага мне прапісвалі фенабарбітал. Гэта змрочныя ўспаміны.


Аляксандра разам са сваім былым хлопцам. Чэрвень 2012.

### ЗША: украінцы

Праз беларускі чарнобыльскі фонд нам знайшлі жанчыну, якая вывозіла групы сіротаў для ўсынаўлення ў ЗША. Яна дала нам 100 даляраў, знайшла квіткі, праз даведнік у бібліятэцы Портланда знайшла рускамоўнага чалавека і папрасіла яго прыняць нас. Яна сказала яму: вам прывязуць «беларушн сувеніра». Калі мы прыехалі, ён даведаўся, што ў нас курс лячэння на 7 гадоў... Гэта яго не абрадавала. Сям'я Хілман. Людзі не вельмі добра нас прынялі. Мы жылі ў невялікім пакойчыку ў іх падвале, нам нельга было адтуль выходзіць. Нам нельга было падымацца на другі паверх дома... Але былі і свае плюсы. Жонка гэтага чалавека вучылася быць педагогам англійскай для замежнікаў. Яна на мне трэніравалася. Такім чынам я вывучыла ангельскую. Я ўдзячна гэтаму выпадку.

Гэтая сям'я была пабожнымі пратэстантамі. Там быў вялікі прыход з эмігрантаў з былога СССР. Мы таксама туды хадзілі. Людзі пачалі заўважаць нас. Яны пачалі задаваць пытанні, як нам жывецца ў гэтай сям'і... Калі яны зразумелі, што нам не вельмі лёгка, нам пачалі дапамагаць. Зболышага гэта была ўкраінская дыяспара. Пасля пра нас даведалася арэгонская прэса. Пра нас пачалі пісаць і нам сталі дапамагаць. Былі акцыі, рэпартажы, збор сродкаў. Адна ўкраінская сям'я забрала нас да сябе на некалькі месяцаў. Гэта была сям'я Дуршпек — Людміла і Альфрэд. Пасля мы з'ехалі ў Беларусь, але яшчэ шмат разоў прыязджалі на аперацыі ў ЗША.


Аляксандра ў сваёй новай здымнай кватэры. Чэрвень 2016.

### Беларусь: інтэграцыя

Мае бацькі хацелі, каб я вучылася дома. 1—2 клас я была на хатнім навучанні. Мой першы настаўнік — Элеанора Уладзіміраўна. Яна вельмі моцна мне дапамагла ў інтэграцыі ў беларускае грамадства. Яна падтрымала маю цікавасць да школы — на ўроках расказвала маім аднакласнікам пра мяне. І яны самі запрасілі мяне ў школу. Пазнаёміцца. З 3-га класа я пайшла ў школу па-нармальнаму.

Пасля школы я паступіла ў Лінгвістычны каледж у Мінску. Мы вярнуліся з апошняй паездкі ў ЗША, мне споўнілася 20 гадоў і мяне больш там не маглі лячыць. Каб не сядзець дома, я пачала шукаць працу. Я не магла ўладкавацца афіцыянткай ці круп'е — вы разумееце чаму... Пасля я пачала працу ў сферы IT у якасці тэхнічнага пісьменніка.

З маім выглядам мяне бралі толькі на аддаленую працу, бо «ў офіс прыходзяць кліенты, яны глядзяць, як мы працуем»...

Пасля я пайшла на курсы тэсціроўшчыкаў. Кіраўнікі пабачылі, што я добра ведаю англійскую, і напрыканцы стажыроўкі мяне адразу запрасілі на работу тэхнічным пісьменнікам у найбуйнейшую кампанію Беларусі.

Я шмат падарожнічала. Адрозненні стаўлення да інвалідаў у Беларусі такое — на мяне шмат вытарэшчваюцца дарослыя. У ЗША за два тыдні такое было толькі адзін раз. І тое гэта была адна дзяўчынка. А ў Беларусі... Яны аблепліваюць цябе, як смецце, сваімі поглядамі... Калі я гэта зразумела... Менеджар з ЗША, які шмат ездзіць у Беларусь і з якім я працую ў межах праектаў, кажа, што ён бачыць мала інвалідаў на вуліцах Мінска. Ён думае, што беларусы здаравейшыя як нацыя. Наіўны.

У нейкі момант я зразумела, што быць не такой, як усе — дрэнна. Гэта адбылося ў школе. Мне хацелася падабацца хлопчыкам. З табой сябруюць, цябе цэняць, але як дзяўчыну проста не ўспрымаюць. Гэта і цяпер невесела, але сёння я стаўлюся да гэтага спакайней.

Аднойчы ў мяне былі адносіны, яны працягваліся больш за тры гады, але потым усё скончылася. Быў і яшчэ адзін малады чалавек, але ўсё завяршылася вельмі сумна для мяне. На жаль, гэты рамантычны досвед дастаткова паламаў мяне, сапсаваў стаўленне да сябе і да жыцця. Прайшло нямала часу, перш чым я гэта перажыла.

Апошнія 10 гадоў я наведваю розныя касцюмаваныя фэсты, сама актыўна цікаўлюся касплэем (стварэнне касцюмаў і грыму на папулярных герояў кіно і літаратуры). Амаль на кожным такім мерапрыемстве знаходзіцца хаця б адзін чалавек, які кажа «Ваў, класны грым!», глядзячы на мой твар без грыму. Вядома, гэта выклікае дзіўныя эмоцыі...

Увогуле, у жыцці кожнага інваліда бывае сітуацыя, калі ты проста перарастаеш той дзіцячы момант, калі ўсе цябе шкадуюць.

**Ніхто не абавязаны прыйсці і зрабіць вас шчаслівымі — гэта цалкам ваша праца і адказнасць. Не спыняйцеся і не здавайцеся, каб потым мець магчымасць сказаць сабе: «Я зрабіў усё, што мог»**

У той час усе табе дапамагаюць ці прымазваюцца да тваёй гісторы — хтосьці для самапіяру. А пасля ты вырастаеш і ўжо не выклікаеш шкадавання, як «малое беднае дзіцё». Ты — дарослы. І цябе проста забываюць. Нешта падобнае было і са мной.

Замест таго, каб сядзець, шкадаваць сябе і думаць пра тое, што жыццё не ўдалося, я спрабую змяняць нешта сама. Ніхто не абавязаны прыйсці і зрабіць вас шчаслівымі — гэта цалкам ваша праца і адказнасць. Не спыняйцеся і не здавайцеся, каб потым мець магчымасць сумленна сказаць сабе: «Я зрабіў усё, што мог, я пражыў максімальна поўным жыццём. Я ні пра што не шкадую».

Запісаў Сяргей Гудзілін, фота аўтара


Аляксандра страляе з арбалета на ўскраіне Мінска. Жнівень 2014.


Аляксандра за работай у офісе. Чэрвень 2012.

# Дзённік Горвата. Лета з казой

*Андрусь Горват пераехаў з Мінска ў дзедаву хату ў палескай глушы. У 2015 «Наша Ніва» заўважыла ягоныя запісы ў фэйсбуку і апублікавала.*

*Дзённік Горвата стаў самым чытаным тэкстам «НН» за год. Па стане на 3 ліпеня яго прачыталі 96332 разы ў беларускай версіі сайта і 10189 разоў — у рускай. Магчыма, гэта самы чытаны тэкст на беларускай мове за апошнія гады ўвогуле.*

*Горват не проста пераехаў у вёску. Ён імкнецца адтварыць лад жыцця сваіх дзядоў. Ён уцяпліў столь глінай з саломай, а не мінералаватнымі плітамі, як робіцца цяпер. Ён абаграваецца печчу, а не катлом. Спрабаваў знайсці работу ў школе, але не змог. Жыве з пісання ў шэраг СМІ і з агароду.*

*Жыццё біла Горвата гэты год... За гэты год памерлі ягоныя тата — афіцэр міліцыі — і цётка. Андрэй моцна перажываў.*

*Узімку ён выдаліўся з фэйсбука — адбірае час толькі. Але ў маі аднавіўся. Людзі, сябры вельмі прасілі. У фэйсбуку ў Горвата 1750 сяброў.*

*З новага — ён завёў сабе курэй і казу.*

*Многае памянялася ў ягоным успрыманні свету і нават маўленні пасля года жыцця ў Прудку. Гэта вы адчуеце ў працягу ягонага дзённіка.*



Сяргей Гудзілін

### 11 красавіка

Дзядзька кажа:

– За сорак дзён у Прудку ніхто не памёр. Уладзіміравіч маладзец. Не пацягнуў нікога за сабой. Палкоўнік.

**«Цяпер я не буду спаць шэсць начэй, а праз шэсць начэй захачу выкупіць тую зямлю і ўсё аднавіць»**

Усім, каму бацька сніцца, ён штосьці дае: з тым выпіў, таго накарміў, а мне сказаў у сне:

– Сынок, надзявай маю вопратку.

Я корпаюся ў шафе, не ведаю, што надзець. Надзявай, кажа, маю вопратку. Сынок, кажа. Мама гаворыць:

– Забірай бацькаву кватэру і жыві ў ёй.

– Я забяру бацькавы кеды.

– Ну, забірай кеды.

Забраў кеды. Сёння вярнуўся ў іх дадому. Кеды на адзін памер большыя. Але я буду расці.

Пап, я дарасту.

### 13 красавіка

Восенню я сказаў:

– Бульбу садзіць не буду. Не-не-не. Ніколі.

А мне сказалі:

– Як так? Нядобра без картоплі. Не па-людску.

А я сказаў:

– Нашто яе садзіць? Мне толькі паўмеха на ўсю зіму трэба. Купіць ці ўкрасці працэй. Садзіць нелагічна.

А мне сказалі:

– Яно то так. Але картоплю садзіць трэба.

І от вясна. Саджу картоплю. Каб палоць яе, абкопваць, каб травіць жука, капаць, перабіраць. Каб будаваць для яе пограб. І няхай уся логіка ідзе ў сраку.

### 15 красавіка

От мне сябар кажа, што няма такіх дзевак, якія хочуць жыць у вёсцы і даіць карову. Што ёсць толькі ахвотніцы да ладу жыцця «вёска-лайт» — гэта хіпстарская варыяцыя: какаву піць у сукенцы для какавы і пчолак на шкле вітражнымі фарбамі маляваць. А я кажу, што ў свеце ўсякай усячыны ёсць. І што не ўсіх дурных вайна пабіла. А ён не верыць.

### 16 красавіка

Не, ну я не самы прапашчы чалавек. Будзе канапа фірмы «Дзяды». Без цвікоў і самарэзаў. Хэндмэйд, олдскул.

### 17 красавіка

Доўгія тэлефонныя развітанні.

– Ну, добра, мам, давай ужо.

– Ну, добра.

– Ыгы, Давай.

– Ну, усё.

– Ыгы.

– Ну, давай.

– Ну, добра, усё тады.

– Ыгы.

– От алыча цвіце-цвіце!

– А ў мяне не цвіце. Я кабачкі пасадзіў.

– А я нічога сёння не садзіла. Учора вінаград абразала, натамілася.

– Закатай на зіму вінаградны кампот.

– Кампот закатаць? А мо сок?

– Закатай сок. Ну, добра, мам, давай ужо.

– Ну, добра.

– Ыгы, давай.

– Ну, усё.

– Ыгы.

– Ну, давай.

– Ну, добра, усё тады.

– Ыгы.

– А персікаў не будзе.

### 19 красавіка

Калісь я напісаў у фэйсбуку, што да мяне заходзіў пазнаёміцца ўчастковы. Сёння мяне спынілі на вуліцы і запыталі:

– А праўда, што ты пра нашага ўчастковага стацю ў газету напісаў?

Хачу паставіць эксперымент. Пішу ў фэйсбуку: сёння, 19 красавіка, я пернуў. Ці скажуць потым у Прудку, што ўсраўся?

### 20 красавіка

– Дай нуль пяць.

– Пеця, у мяне ад цябе даўленне падымаецца.

– Дай пацалую — яно ўпадзе.

– Вой, шчэ і горш будзе. Пацалуеш — усё падымецца, не толькі даўленне.

### 22 красавіка

«А на храна ты ліпы пасадзіў? Трэба было сірэнь».

«А чаму ты адзін жывеш? Трэба з мамай: яна памые і накорміць».

«Не капай агарод рыдлёўкай. Папрасі каня».

«Нашто табе тыя дыні? Тут столькі картоплі пасадзіць можна».

Гэта толькі сённяшнія парады ад прудкаўцоў. Давайце, расказвайце, як трэба жыць. А я паслухаю і паем яечню з пяці свежых яек ад кур, якія не нясуцца.

### 23 красавіка

– Не перажывай, знойдам табе пеўня, будзе таўкці тваіх курэй.

– Добра, бо адны бабы ў селішчы. Трэба мужыка.

– А ты ж мужык.

– Я адзін. Мяне мала.

Пакуль пеўня няма, куры паказваюць модныя прычоскі. Сезон вясна-лета 2016. От так трэба насіць грэбень.

### 24 красавіка

Калі мой дзённік выкрылі прудкаўцы, набіць мне морду прыйшоў толькі адзін чалавек — украінец. Ён жа потым прыйшоў і сябраваць. Беларускія прудкаўцы дагэтуль маўчаць і думаюць, як набіць мне морду. Гадоў праз дзесяць прыдумаюць і ўдараць, мо нават віламі праткнуць. Ніхто ўжо не будзе помніць за што. Гэта ўсё, што трэба ведаць, чым беларус ад украінца адрозніваецца.



Ляляўна. Мэйд ін Прудок

### 29 красавіка

Я правёў сваё дзяцінства ў вёсцы Бярозаўка (15 км ад Прудка). Там жыла мая любімая баба Ганна. Сёння я ездзіў прыбіраць бярозаўскія могілкі і заехаў на тое селішча. Цяпер я не буду спаць шэсць начэй, а праз шэсць начэй захачу выкупіць тую зямлю і ўсё аднавіць. Ад хаты застаўся толькі фундамент. Дзе стаяла печ і шафа растуць канадскія клёны. Ёсць стары зарослы хмызняком сад і вялікі агарод, на якім, як казала бабуля, і дзіця вырасце, калі яго туды пасадзіць. Раней там было балота, а потым мой дзед нацягаў наверх чорнай зямлі. Я не ведаю, што рабіць. Я не ведаю, дзе ўзяць грошы, рукі і яшчэ адно жыццё, каб вярнуць гэта селішча ў генеалагічнае дрэва. Але я вельмі хачу. І я зраблю. Я не магу адвярнуцца і зрабіць выгляд, што мяне гэта не кранае і што ў мяне няма сілы.

### 1 мая

Відаць, мяне ўкусіў нейкі шалёны беларус. От свята сёння, а я вяю на столь, што няможна рабіць. Было б добра штосьці выкапаць ці закапаць, прыбіць, пакалоць, парэзаць. Каб не языком, а рукамі. Каб у руках не чарка/яйка, а сякера.

### 6 мая

Развальваюцца атамныя электрастанцыі. Нобелеўскія лаўрэаты купляюць кватэры. Байкеры-русафілы ідуць на Берлін. А ў мяне кура — інтравертка. Галоўная кура — Марына — біла яе. Кура-інтравертка спала асобна ад усіх. Марына спала з народам. Яшчэ дзве куры — мы з Тамарай ходзім парай. Яны не з Марыніным народам і не з інтраверткай, а ўтварылі свой незалежны апалітычны кагал (унутраная эміграцыя). Потым з'явіўся певень, стаў таўкці Марыну, інтравертку, народ, Тамару з сяброўкай — і куры згубілі сваю індывідуальнасць.

### 7 мая

Калісь я напісаў, што мая старая акацыя рыпіць і рве мне душу. У каменты набеглі дыпламаваныя спецыялісты, якія дакладна ведалі, што мне рабіць з той няшчаснай акацыяй. А ўчора прыехаў Анатоль Мазырка, прывёз пілу, залез высока-высока і спілаваў усе сухія галіны. Калі «Наша Ніва» паказала фоты, як я, галодны і здзічэлы, пёр з лесу яблыньку і сек дровы тупой сякерай, нашаніўскія каментатары раілі мне... чаго яны мне толькі не раілі. А Анатоль тады проста прывёз добрую сякеру і добрыя шчэпленыя яблыні.

Калі памёр мой бацька і мне трэба было спешна трапіць у Петрыкаў, я пайшоў прытыкацца вока не да прудкаўскога стрыечнага брата-святаруса, а да пеніцкага хлопца Аляксандра Бачарова, бо ведаў, што на яго можна разлічваць.

Саша не раіў мне, дзе знайсці пеўня — проста прывёз яго. А Лёша прывёз курэй і жэрдкі на плот.

Калі б я быў міністрам культуры, я б прыклеіў на Лёшу-Сашу-Толю шыльды «Гісторыка-культурная каштоўнасць» і ахоўваў б іх ад разбурэння. Калі б я быў дыктатарам, я б забараніў ім карыстацца прэзерватывамі ў ложках з жонкамі. Бо гэта той генафонд, які няможна спускаць ва ўнітаз — яго трэба памнажаць. (Цяпер, калі будзеце сварыцца з жонкамі, можаце так і казаць ім: «Не крычы на мяне, жэншчына, Горват сказаў, што я каштоўнасць!»)

Гэтымі ўчынкамі яны і мяне вучаць знішчаць у сабе савецкага суседа-дарадчыка ў трыко з разношанымі каленкамі.

**«А чаму ты адзін жывеш? Трэба з мамай: яна памые і накорміць»**

**Прудок**

вёска ў Калінкавіцкім раёне, 300 жыхароў. Побач з ёй месцяцца вёска Аўцюкі, вядомая сваім гумарам. І вёска Юравічы — месца раскопак найстаражытнейшага паселішча чалавека ў Беларусі, на гары над далінай Прыпяці.

## 1 чэрвеня

У Прудку хтосьці штосьці скраў і папаўся. Бабкі-цёткі-дзядзькі пастанавілі, што напісаць ананімку мог толькі я: «той хлопец — апазіцыянер». От такая ў мяне тут рэпутацыя. Я спачатку пакрыўдзіўся і хацеў ніколі больш не любіць прудкаўскіх бабак-цётак-дзядзек і не спрабаваць інтэгравацца ў іх суполку.

Але потым цётка Дуня (імя зменена) прынесла мне букет ландышаў ды гаворыць:

— Хораша, блізенька лес. Я пайшла ў лес ды так прылегла. Трэба ж ісці, кажу, утамілася, утамілася. Сёння Мікола. Раньшэй хадзілі людзі — і ў госці, і... Цяпера пазашываюцца ў норы. Не, няма ўжо старых. Нас няма. Нейкія панаваломквалі — Бог знае якія. А я хаджу. Я да ўсіх хаджу. Папіць е вада? Піць хочу. Паела таго жырнага, ох.

Апоўначы чую крыкі на вуліцы. Выходжу ў двор. Ля крамы цётка Дуня голасна пяе «Цячэ вада ў ярок», а дзядзька крычыць на яе шчэ галасней:

– Дуня, ідзі! На работу рана. Дай людзям спаць.

– Пацалуй мяне ў сраку! Я п'яная, і ў мяне душа баліць.

Брэшуць усе сабакі Прудка. У цёткі Дуні душа баліць.

Я вырашыў: няхай бабкі-цёткі-дзядзькі думаюць пра мяне свае паскудствы, а я буду любіць іх. А я ўсё адно буду іх любіць.

## 3 чэрвеня

У Петрыкаўскім раёне жыве бабка Анютка. У яе вампірскія вочы. Як што ў каго возьме — прыстрэт нападзе. Баба ўзяла ў маёй маці яек — і куры перасталі несціся.

Мама прыехала да мяне, паглядзела на маіх курэй, кажа:

— От у цябе куры як куры, а ў мяне абы-што.

Паехала — і мае куры таксама перасталі несціся.

Суседка дала мне малітву ад сурокаў курэй.

XXI стагоддзе, бляха. А я, чалавек з вышэйшай адукацыяй і, можна сказаць, перспектывамі, іду ў куратнік і шаптацьму.

Курам. Малітву. Я.

## 5 чэрвеня

Калі я жыў у Мінску, я пісаў так:

«Вахцёрка спыніла мой жвавы шпацыр і запыталася:

– Гарбату будзеце? Я электраімбрык паставіла.

– Не, спяшаюся.



**Я марыў пра ванну год. Красіва жыць не запрыціш. Мая ванна — самая вясковая ванна ў свеце, бо яна пад небам, а не пад столлю. І вада ў яе трапляе не з трубы, а са студні і вогнішча. То адгалосак гарадскога жыцця, упісаны ў палескае неба.**



**Не разумею я гэтых вашых алігархаў, якія сядзяць на залатых унітазах і думаюць пра ўладу, сферы ўплыву, пра ворагаў і грошы, думаюць і п'юць пілюлі ад імпатэнцыі. А от столь у маёй ваннай. І я думаю не пра ўладу і грошы, а пра бясконцасць. А калі будуць падаць знічкі, я буду думаць пра імгненнасць. Парадокс у тым, што самае дарагое — заўсёды бясплатнае.**

– Столькі спраў, што няма часу на адпачынак.

– Слушна кажаце.

– Да пабачэння».

Сёння, пасля працяглай вясковай эміграцыі, я б напісаў гэтак:

«Бег я па калідоры, бы ўсраўся. Вахцёрка цёця Ніна схапіла мяне за руку ды кажа:

– Мо чаю наліць? Я чайнік паставіла.

– Не, спяшаюся.

– Няма табе і хвілінкі прысесці.

– Ваша праўда.

– Бывай здаровенькі».

Пасля вясковай моўнай ін'екцыі ўсе гэтыя формы будучага часу — будам (буду) нешта рабіць — замяняюцца на рабіцьмем, рабіцьму, рабіцьма.

Становіцца менш «ёсць» і больш «мець».

– Цукар е?

– Е.

Але маю ахвоту, сумленне, гонар, свабоду. І маю што сказаць.

Паміж «ёсць» і «мець» — такая ж прорва, як паміж «атрымаць» і «зарабіць» грошы. Тое, для чаго трэба прачынацца раненька, каб падзёргаць за сіські, каму касіць траву і казаць «дзякуй» — тое маеш. Я маю сваё малако. Але як куплю малако ў краме — ужо яно ў мяне е.

Ніколі не чуў «напэўна». Замест яго тут пануе простае «мабыць» («мабуць»). Мо і яно паходзіць ад «мець» — «маю быць»?

Замест савецкага «ні*уя» тут яшчэ можна пачуць «ні юды» — Ні юды ў цябе не вырасце на гэтым пясочку. Юда горай за *уй.

Словы «файна» і «прышпільна» ў вёсцы не выжывуць. Тут няма нічога файнага і прышпільнага. От сонейка над Прудком — добра. А над Аўцюкамі сонейка — харашэ.

А як смешнае раскажуць — то смешна ды пацешна.

## 6 чэрвеня

Пакуль доіш казу, добра думаецца пра еўрапейскія кавярні, у якіх я ніколі не буду. Пра мора, Таскану і Харватыю. Пра Космас, скуль касманаўты глядзяць на Зямлю, дзе цёплае малако льецца ў слоік.

А нехта забіраецца на высокую гару. Цёця жуе траву, а хтосьці караблём разразае акіян на дзве часткі.

А той, хто на гары, цяпер глядзіць на ўвесь свет і думае, што на гэтай вялікай Зямлі нехта доіць казу. Цёплае малако льецца ў слоік. А каза весела жуе траву. А ў хаце цёпла і спакойна. І ён разумее, што ў яго так ніколі не будзе.

## 8 чэрвеня

От не люблю я ўсіх гэтых падзелаў на хрысціянаў і нехрысціянаў. Мяне перасмыквае ад словаў: «Харошая дзевачка, праваслаўная». Нібыта праваслаўе ўжо гарантуе ёй быць харошай. Як па мне, усюды розных людзей хапае, і ад ступені рэлігійнасці гэта не залежыць.

Мой прадзед Андрэй, напрыклад, быў пеўчым у прудкаўскай царкве. Маліўся перад тым, як паесці. Гэта не перашкодзіла яму забіць суседскага каня віламі за тое, што той еў яго сена (а хтосьці кажа, што і самога суседа). Ці пакінуць цела дзесяцігадовага сына пад дрэвам у лесе і пайсці далей.

А баба Ганна, з боку маці, да царквы ставілася абыякава. Больш за тое — лячыла шэптам, што лічыцца нават грахом. Але калі ў яе памерлі маленькія дзеці, яна пахавала іх па-людску і не ела яблыкаў, бо лічыла, калі паесць, дзецям ТАМ не будзе.

Я працаваў у праваслаўным манастыры ў Мінску і розных людзей пабачыў. І тыя, хто казалі мне, калі есці мяса і што Бог мяне любіць, і прасілі хрысціцца з усімі, а не стаяць ззаду і назіраць, мяне не запэўнілі ў сваёй веры. А толькі адна манашка запэўніла. Яна была светлая і маўклівая сярод гаманлівага і нястрыманага праваслаўя. Яна дала мне веру, што і ў царкве таксама Бог ёсць. От менавіта так — у царкве ТАКСАМА Бог ёсць. Але не толькі і не столькі там.

## 8 чэрвеня

Калі жыццё пасля смерці ёсць, я б хацеў, каб на ўваходзе на Той Свет выдавалі садовы інвентар: рыдлёўку, граблі, капаніцу. Каб было з чаго паставіць хлеўчык казе. Каб людзі казалі: «Алёна прыехала паправіўшыся» — а я б радаваўся, што пачуў балцкі рэлікт у беларускай мове. Каб можна было пісаць дурныя тэксты. Каб зіма была. І дровы. І чыгунок з бульбай.

От думаю, а лепшых нябёсаў, чым яно ёсць, прыдумаць не магу.

### З каментаў да Горвата ў фэйсбуку

Жонка кажа мужу:

— Будзеш есці крупнік ці не? А то забялю і сабаку аддам.

Сёлета мама садзіла агарод з выкарыстаннем інавацыйных тэхналогій. Яна забіла ў тэлефон усе спрыяльныя дні, а тэлефон, калі трэба, паведамляў ёй: «Гарох» ці «Кукуруза». Засталося пасадзіць толькі чорную рэдзьку. А чорная рэдзька не звоніць і не звоніць. Мама пачынае хвалявацца.

— А, то ты звоніш... А я ўжо падумала, што рэдзька.

**Працяг на старонцы 16.**

## Навука

### 100 нобелеўскіх лаўрэатаў: боязь ГМА надуманая

Больш за 100 нобелеўскіх лаўрэатаў падпісалі зварот да прыродаахоўнай арганізацыі *Greenpeace*, ААН і ўрадаў усіх краін свету з заклікам перагледзець негатыўнае стаўленне да генетычна мадыфікаваных прадуктаў.

У звароце гаворыцца, што навука не ведае ніводнага пацверджанага прыкладу негатыўнага ўздзеяння трансгенных прадуктаў на здароўе чалавека і жывёл. Рэгулюючыя органы прызнаюць такія прадукты бяспечнымі. Тым не менш *Greenpeace* і іншыя праціўнікі ГМА адмаўляюцца прызнаць вынікі даследаванняў.

Асобна ў звароце навукоўцаў згадваецца кампанія супраць «Залатога рысу», у якім метадамі геннай інжынерыі ўдалося павялічыць сінтэз бэта-караціну. Такі рыс перш за ўсё прызначаецца жыхарам краін, што развіваюцца, якія пакутуюць ад захворванняў, выкліканых недахопам вітаміну А.

У спісе навукоўцаў, якія падпісалі зварот, — нобелеўскі лаўрэат па фізіцы, ураджэнец Мінска Жарэс Алфёраў.

«Мы заклікаем урады ўсіх краін свету ігнараваць кампанію *Greenpeace* супраць «Залатога рысу», у прыватнасці, а таксама супраць прадуктаў і кармоў, створаных з дапамогай біятэхналогій, у цэлым. Колькі яшчэ бедных людзей па ўсім свеце павінны памерці, перш чым мы прызнаем [недавер да навукі] злачынствам супраць чалавечнасці?» — гавораць набеліянты ў звароце.

### Азонавыя дзіркі пачалі зацягвацца

У верасні 2015 года азонавая дзірка аказалася па памеры на 4 млн кв. км меншай, чым у 2000-м. Гэта гіганцкая розніца — па плошчы як 20 Беларусяў.

Найхутчэй, што гэта адбылося дзякуючы забароне на выкарыстанне разбураючых азон хімічных рэчываў.

Раней азонаразбуральныя рэчывы выкарыстоўвалі пры вытворчасці халадзільнікаў, кандыцыянераў і лакаў для валасоў. Пасля ад іх адмовіліся.

Натуральныя працэсы ўтварэння і разбурэння азону ў стратасферы балансуюць адзін аднаго. Азонавы слой абараняе Зямлю ад шкоднага ультрафіялетавага выпраменьвання Сонца.

Навукоўцы чакаюць, што азонавы пласт цалкам адновіцца да 2050 ці 2060 года.

Гэта каласальна пазітыўная навіна: значыць, чалавецтва здольнае спыняцца перад абліччам небяспекі для ўсіх, а прырода — самааднаўляцца нават пасля цяжкага дысбалансу.

### Навукоўцы стварылі вакцыну ад Зіка

Навукоўцы з ЗША і Бразіліі стварылі дзве вакцыны супраць віруса Зіка. Як сцвярджаюць даследчыкі, упершыню вакцына падзейнічала на жывёл і дала станоўчы вынік. Навукоўцы ўжо гатовыя апрабаваць яе на людзях.

### Каля Мядзела запрацавала буйная сонечная электрастанцыя

Каля Мядзела пачала працаваць буйная сонечная электрастанцыя магутнасцю 5,7 MW. Яна можа выпрацоўваць 6,27 мільёнаў kWh электраэнергіі штогод — дастаткова, каб на гэты перыяд забяспечыць каля 3 тысяч хатніх гаспадарак.



# Дзённік Горвата. Лета з казой

Працяг са старонкі 15.

### 14 чэрвеня

Чыгуны пахавай. На калодзезь павесь замок, каб матор не ўкралі. А куры пад замкам? Не? А каза? Вой-вой-вой. Ты паслухай мяне сюды, Андрэй. От там пасадзі слівы, яны разрастуцца, і цябе ніхто не будзе бачыць. Пра мяне не пішы.

А як жа я вас люблю, мае партызаны!

### 16 чэрвеня

Мне нагадалі, што сёння роўна год, як у «Нашай Ніве» з'явіўся мой першы дзённік і я прачнуўся зоркай на рэгіянальным небе. Я не разумеў, чаму мяне ў фэйсбуку зафрэндзіла тысяча чалавек. Было страшна пісаць пра жукоў у пограбе, мух і размовы з катом Ромам, калі адчуваеш перад сабой вялікую аўдыторыю. Вялікай аўдыторыі заўсёды хочацца перадаць вялікі вопыт, якога я не меў. Часам я гэтага не разумеў і гуляўся ў сваю значнасць, потым прыходзілі злыя рэфлексіі, круцілі і ламалі мяне, потым я ізноў гуляўся. Толькі цяпер я навучыўся глядзець на ўсё прасцей, найперш берагчы свой рэальны свет, слухаць цішыню, пісаць і маўчаць пра яе. Але гэта было цяжка.

Дзякуй усім, хто быў і ёсць побач. Жыццё маст гоў он [мусіць працягвацца — англ., алюзія да песні гурту *Queen «The Show Must Go On»*].

### 17 чэрвеня

Сёння ў публічным месцы ў прысутнасці чатырох сведкаў паштарка сказала, што я гаровaны хлопец. Гэта найвялікшы камплімент, якім могуць ушанаваць у дзярэўні дармаедаадзіночку. Гэта нават круцей за рэпутацыю злодзея. Я так узрадаваўся, што падпісаўся на раёнку, хоць і ведаю, што за спінай скажуць, каб я ўдавіўся.

### 17 чэрвеня

Суровыя палешукі выцягваюць кляшча пласкагубцамі.

### 18 чэрвеня

Не, ну добра, што заўтра свята і можна адпачыць. Не буду нічога рабіць. Спакойна прыбяру ў хаце, перамыю посуд, перанясу дровы з хлява ў новую дрывотню, паладую дошкі. Гуляць дык гуляць — яшчэ накручу пару слоікаў парэчак і напішу артыкул. А потым лягу спаць і буду думаць, як пасля свята зрабіць лаз у падмосце пад тэрасай (там будзе хованка ад акупантаў на выпадак вайны).

### 21 чэрвеня

За месяц я выпіў 90 літраў казінага малака. Гэта два бітоны і дзесяцілітровае вядро. Выпіў — і набраў два кілаграмы. Калі дынаміка захаваецца, то да Новага года маю шанец пакінуць суполкі «Я дыстрофік — гэта не мой недахоп, а мая асаблівасць» і «Божа, які ты худзенькі!».

### 24 чэрвеня

Цётка сказала, што мой дзед таксама любіў спаць у двары. Пад яблыняй у садзе стаяў металічны ложак, скуль дзед глядзеў на тое самае неба.

Дзіўна гэта ўсё. Я здымаў кіно ў Піцеры, жыў у Самары, сустракаў Новы год у Вільні, святкаваў дзень народзінаў у Беластоку, працаваў у Купалаўскім тэатры і жаночым манастыры ў Мінску. А ўсё адно знайшоў дарогу туды, дзе дзед глядзеў на неба.

### 27 чэрвеня

– Андруха!..
– Ну.
– Ну ты маладзец!..
– А што такое?
– Дай пацісну руку!..
– Ну, што?
– От я думаў, што ты от тэты во. А ты не от тэты во!..
– Што?
– Ну, не от тэты во, не абы-што!..
– А што?
– Андруха, от маладзец ты, от гляджу на цябе і думаю: дай сто тысяч, а?

### 30 чэрвеня

– Як ты, сынок?
– Паціху.
– Ну, дзякуй Богу. І я тупаю паціху. Мабуць, напісаў штосьці?
– Не, цётка, у агародзе гарую.
– Ну, ідзі, сынок, гаруй паціху. А я яечка звару і буду тупаць.
– Паціху?
– Паціху, сынок, паціху.




**Брэнд «Цудоўная цукерня» быў уганараваны прызам фестывалю рэкламы «Аднак» у катэгорыі «Упакоўка тавару». Аўтар: брэндынгавае агенцтва Fabula Branding.**




**Лагатыпы стаматалогіі «Майстэрня ўсмешкі» (аўтар: Лёша Лімонаў) і гурту «Вурай» (аўтары: Дзіма Ску, Віка Чайка) былі ўганараваныя як найлепшыя работы года на фестывалі рэкламы «Аднак».**




## Матка. Працяг

Іванчык гаворыць:
– Мамо, дзе мне ўзяць курыць?
Я г'ару:
– Да 'дзі, кажу, от чалавек харошы, ён табе дасць п'яць папірос, а яны не дадуць, — кажу.

Не было ў аўталаўцы ў нас. У мяне і гэты курыць, і той курыць. А я закалябалася недакуркі па Боруску збіраць. Хаджу, хаджу...

А я пайшла, Колю бачыла, ага, дык:
– Прыехала твая дама?
– Не прыехала, — кажа.

За хвранцуза пайшла. Божа! Што мы за такія людзі! Сядзі ты ў Беларусі з беларусамі!

І мамка твая адна засталася, Іван, так? Адна? Яна ўжо і будзе адна. Анікога не будзе ўжо. Так і я. Даюць мне мільён — ну і добра.

Якая то ў цябе тут бегала дзеўка, лятала? Ну. Яна ж бегла паўз мяне, дык я бачыла. Іванчык у ёй усё параспытваў. Мой хлопец такі. Шустры — сорак гадоў. А ён ужо адвык ад гэтых жэншчын — ад гэтага ўсяго. І той, большы, адзін цягаецца, кепска з галавой стала. Я кажу:
– Паеду да сястры, ды давай будам лячыць. Ці будам шаптаць ці штось рабіць.

Хлопец быў як лялька — здатны на ўсе: і рыбу налавае, і грыбоў. Ета ў мяне такія хлопцы. Варыць умеюць самі — смачней мяне наварадь.
– Мамо, ета ты не варыла? Ляжала?
– Ляжала, — кажу, — дроў прывезла ўчорай, сынок. Ляжала, — кажу, — баліць нага, хадзіцькі няможна.
– Так мучышся, бедненька.

А брат твой хораша жыве? Добра? Багата дзяцей? Двое? Не п'е? Трохі? Ну, каб не саўсім п'яніца быў. Каб п'яніца быў, хіба б жонка жыла?

Ну, а тая дзеўка тут лятала, а Іванчык кажа:
– Мамо, мо' мне жаніцца?
Я кажу:
– Перш чым узяць, трэба пакарміць.

Яна не будзе картоплю есці. А я не перабіраю. Навару таўчонкі, калі булёну, налопаюсь. А яны ўсе мяса хочуць.

Не, у аўталаўцы е мяса. Я рыбіну капчоную купіла. Кажу:
– Дай мне рыбіну капчоную. Захацела, — кажу, — дай капчоную рыбу. Я ж грошы, — кажу, — палучаю. Мільён! Што мая душа захоча, — кажу. — Я ўжо сваё адгаравала.

От. А Іванчык кажа:
– Мамо, мо мне жаніцца?
Я кажу:
– Жонку перш трэба пакарміць. А чым ты пакорміш? От я хаджу, — кажу, — недакуркі для цябе збіраю. Чым ты пакорміш?

Цяпер Лукашэнка ўзяўся! Сільна ўзяўся — не шчадзіць нікога! Хіба ён будзе далей работаць? Будзе? Яго, гавораць, не хочуць, бо сільна ўзяўся. І за маладых узяўся, хто не робіць — па тры мільёны! А Божа ж ты мой! А дзе іх узяць? Ідзі ў цюрму. Мой Іванчык спужаўся:
– Мамо, я пайду, буду кусок хлеба свайго зарабляць.

Яго прасілі сторажам. Я кажу:
– Сынок, не йдзі. Гэта трэба мужчына, і добры мужчына. Лепей удзень адрабі, — кажу. — Спакойна.

Сорак гадоў. Яны ў мяне абодва прыгожыя.

То мо ён ідзе. Агай! Не даждаўся. Не даждаўся. Яна не дасць папірос, кажу. Хадзі, што ты баішся? На, от табе, пабач — недакуркі! На. Паглядае... Будзеш цяпер гаравадь, сынок. Хадзем, мо яна дасць, я папытаюся. А не, дык рассерджуся, буду сварыць — о якія словы! Ты што, сынок — хай не будуць такімі агаістамі. А жаніцца хочаш — жаніся, сынок. Я мільён палучаю. Хопіць.

* * *

### Заўвага чытача і адказы аўтара

Канечне, я лезу ў чужы гарод са сваімі граблямі, аднак... Гэты тэкст — не проста аўтэнтычны. Ён — ад жывых людзей, пра людзей, і бяду, і бяду не маленькую. Самае элементарнае правіла чалавечых зносінаў: калі ты збіраешся публікаваць, пускаць на людзі чужыя думкі і чужы боль — спытай на гэта дазволу. Вельмі сумняваюся, што тут пра нешта пыталіся.

Мая думка: нельга так з людзьмі.

**Валер Гапееў, Івацэвічы**

Усе імёны і ўся фактычная інфармацыя зменены. Гэта напісана нават не з аднаго чалавека, а зборны вобраз.

**Андрусь Горват**

Андрусь, я 20 гадоў раблю ў раёнцы... Людзі сябе пазнаюць з першага слова. А тут матка і двое сыноў дарослых (ці хай адзін). Проста ведаю, як насамрэч балюча можа ўдарыць па чалавеку яго ж слова, калі яно будзе агучана на ўсю вёску.

**Валер Гапееў, Івацэвічы**

Тады ўся літаратура — неэтычная з'ява.

**Андрусь Горват**

Няпраўда. Героі вогненных вёсак ведалі, што іх запісваюць Адамовіч, Калеснік, Брыль... Іншая справа — запісаць чалавека і выкласці ў паблік анігадкі.

**Валер Гапееў, Івацэвічы**

А Мележ, напрыклад, пісаў сваіх персанажаў з вяскоўцаў. А яны потым пазнавалі сябе і сварыліся з аўтарам.

**Андрусь Горват**

Ну, у свой час Марчук літаральна спісаў сваіх давыдгарадзенцаў. То доўга на радзіму не ездзіў... Што тут добрага?

**Валер Гапееў, Івацэвічы**

### Запіс ад 2 чэрвеня

Пісьменніцтва — неэтычны занятак. Прататыпы літаратурных персанажаў могуць пазнаць сябе, пакрыўдзіцца і пабіць. Як, напрыклад, куранёўцы калісь крыўдзіліся на Мележа.

Уся мастацкая проза не аб прыродзе, не аб прышэльцах і не пра ўнутраныя перажыванні аўтара — неэтычная з'ява. Хаця аб прышэльцах — неэтычная таксама. Яны таксама могуць пазнаць сябе і пакрыўдзіцца.

Літаратура пра людзей — гэта крадзеж чужога споднягa.

Пісьменнік — то злодзей.

Але на цяперашняй вёсцы быць злодзеем — паважаны занятак. Хто ўмее ўкрасці — той ужо не пусты чалавек.

Пісьменніцкае зладзейства становіцца спортам, паляваннем — знайсці чалавечую гісторыю, пачуць яе, зразумець, як мага лепей схаваць за іншымі словамі, каб гаспадар не пазнаў сваё дабро, расказаць усім, а потым збегчы ад тумакоў.

Мой прадзед праткнуў віламі суседскага каня за тое, што той еў яго сена. Потым гісторыю трохі перабрахалі. Калі мая маці ішла за майго бацьку, бабы на сяле казалі:

– За кога ты ідзеш, дурная? Яго дзед праткнуў віламі суседа.

Месяц таму суседскі конь патаптаў маю граду з часныком. Я паправіў граду, але ўсё адно думаю пра гэта. Мой унутраны прадзед заўсёды помніць, дзе стаяць вілы. Мае ўнутраныя бабы на сяле кажуць:

– Тшш, тшш.

# Забойства вялікага князя Войшалка: дэтэктыў з нямецкім следам

Піша **Піліп Падбярозкін**.

У 1267 годзе князь літоўскі Войшалк, сын Міндоўга, расправіўшыся з забойцамі свайго бацькі, пашырыўшы і ўпарадкаваўшы дзяржаву, вырашае сысці ў манастыр. Аднак доўга цешыцца духоўным узрастаннем былому князю не ўдалося — не далі старыя ворагі. Сярод іх — адзін з валынскіх князёў, Леў, сын Данілы Галіцкага. Леў Данілавіч быў незадаволены тым, што Войшалк, адыходзячы ў манастыр, аддаў Літоўскае Княства брату Льва, Шварну, а не яму.

### Крывавая драма

У 1268 Леў Данілавіч запрасіў да сабе ў госці Войшалка. Былы князь баяўся ехаць да Льва, — аднак пасярэднікам выступіў дзядзька Льва, князь Васілька Раманавіч, якому Войшалк давяраў. Войшалк выправіўся ва Уладзімір-Валынскі. У горадзе, як сведчыць Іпацьеўскі летапіс, для трох князёў быў наладжаны пір у доме нейкага «немчына Маркольта». Князі добра выпілі, пасля чаго Васілька паехаў дадому, а Войшалк — у манастыр Святога Міхаіла. Далей летапіс паведамляе: «А потым Леў прыехаў да яго ў манастыр і пачаў казаць Войшалку: «Куме! Нап'ёмся!» I пачалі піць. Д'ябал жа... уклаў у сэрца Льву: забіў Войшалка ад зайздрасці... і, убраўшы цела яго, паклаў у царкве Святога Міхаіла Вялікага».

Паводле летапісных звестак, Леў рассек Войшалку галаву шабляй.

Падазраваць у дачыненні да гэтага забойства можна ўсіх: найперш Льва Данілавіча, спрактыкаванага ваяра, які так лёгка расправіўся з князем-манахам Войшалкам, што даўно не насіў меч. Нельга абмінуць увагай і Васільку Раманавіча, які перад паездкай асабіста гарантаваў Войшалку бяспеку, але ў патрэбны час пакінуў яго п'янага з узброеным Львом.

### Немчын

Але найбольш загадкавай (і ад таго падазронай) асобай у гэтай гісторыі з'яўляецца немец Маркольт, у доме якога тры князі напіліся. Чамусьці менавіта пасля папойкі ў Маркольта Войшалк, які перад гэтым пагаджаўся на сустрэчу з Львом толькі ў прысутнасці Васількі, цяпер дае згоду на «працяг банкету» ў манастыры. Там ужо ніхто не замінаў Льву разабрацца са старым ворагам. Верагодна, Маркольт не проста так прадстаўляў свой дом для бяседы. Трэба было быць паважаным і багатым чалавекам, калі, нават быўшы «немцам» і, хутчэй за ўсё, каталіком, ён мог запрасіць да сябе трох князёў і зладзіць ім бяседу. Выглядае невыпадковым і тое, што Маркольт больш у летапісе не ўзгадваецца. Такім чынам, ведаючы двух «саўдзельнікаў» забойства, было б цікава даведацца, хто такі Маркольт?




**Войшалк**

(1223(?)—1267) старэйшы сын літоўскага князя Міндоўга. Ад 1240-х, найхутчэй, як намеснік Міндоўга княжыў у Навагрудку. Першы раз згадваецца ў летапісах пад 1255, калі ён замірыўся з галіцка-валынскім князем Данілам Раманавічам і выдаў сваю сястру замуж за яго сына Шварна (Свараміра). Пазней пастрыгся ў манахі, спрычыніўся да заснавання Лаўрышаўскага манастыра і стварэння аднайменнага Евангелля. У 1257 захапіў Навагрудак, змясціў Рамана Данілавіча (галіцка-валынскага князя, які тады кіраваў у Навагрудку) і зноў пачаў княжыць. Калі ў 1263 Міндоўг быў забіты, Войшалк хаваўся ў Пінску. У Навагрудку сеў адзін з забойцаў — Транята. Пасля смерці апошняга ў 1264 Войшалк вярнуўся да ўлады. З дапамогай галіцка-валынскіх дружын князёў Васількі і Шварна заваяваў Нальшчаны і Дзяволтву. Да 1267 перадаў уладу Шварну, бо «заставацца князем не дазваляюць грахі», і сышоў у манастыр на Валыні. У красавіку 1267 Леў Данілавіч, князь галіцкі, запрасіў яго на сустрэчу ва Уладзімір-Валынскі і забіў. Пахаваны ў саборы Св. Міхаіла на тэрыторыі манастыра.



**Герб «Прус», да якога маглі належаць Маркольт і яго нашчадкі.**



**Святы Лаўрыш. Выява з Лаўрышаўскага Евангелля. Атаясамліваецца з Войшалкам.**



**Леў Данілавіч**

(1228—1301) вялікі галіцкі князь, сын Данілы Галіцкага. Прэтэндаваў на ўладу ў беларуска-літоўскіх землях, але беспаспяхова. Забіў Войшалка. Далучыў да Галіцка-Валынскага княства частку Закарпацця. Перанёс сталіцу з Халма ў Львоў, названы ў яго гонар.

### Хто такі Маркольт?

Здавалася б, мянушка «Немчын» павінна ўказваць на нямецкае ці прускае паходжанне. Аднак ні ў тэкстах братоў Тэўтонскага (Нямецкага) ордэна, ні ў іншых спісах германскай шляхты нам не ўдалося знайсці фамільнага імя «Маркольт». Затое Маркольты прысутнічаюць у гербавых кнігах багемскай (чэшскай) і польскай шляхты, якая роднаснымі і кроўнымі сувязямі была цесна звязаная з нямецкай шляхтай у Сярэднявеччы.

Так, сярод багемскіх рыцараў у гербоўніку 1885 графа Рудольфа Крывелі мы знаходзім успамін пра Маркольта з Тэдражыча (*Markolt von Tedrazic*) як прадстаўніка «старажытнага роду». Аднак жа знаходжанне гэтага Маркальта ў Валынскай зямлі менавіта ў час забойства Войшалка (1268) мы не можам пакуль даказаць.

### Немчыноўскія

Звернемся да польскага гербоўніка Каспара Нясецкага 1841 года. У артыкуле пра Немчыноўскіх (*Niemczynowski*), з «Берасцейскага ваяводства», складальнік выказваецца, што род вядзе пачатак ад Немчына Маркольта, «саноўніка князя Данілы Раманавіча, караля рускага». Тую ж згадку мы знаходзім у больш познім гербоўніку 1900 года Эміліяна фон Зярніцкага-Шэлігі. Паводле дадзеных Шалігі, Немчыноўскія мелі герб «Прус» і, імаверна, паходзілі ад немцаў з Прусіі. Тут Нясецкі адсылае нас да «Хронікі літоўскай, рускай і жамойцкай» Мацея Стрыйкоўскага (XVI ст.), дзе Маркольт называецца «рускім панам, радцам памерлага князя».



**Царква-ратонда Святога Васіля, якая стаіць на месцы Міхайлаўскага манастыра, дзе быў пахаваны Войшалк. На старым фота добра заўважнае ўзвышэнне сярэднявечных умацаванняў.**



**Васілька Раманавіч**

(1203—1269) родны брат Данілы Галіцкага. Быў старэйшым сярод галіцка-валынскіх князёў у сярэдзіне XIII ст. Войшалк лічыўся з яго аўтарытэтам і называў «бацькам і валадаром», хоць Васілька хадзіў на Літву разам з татарамі і адбіваў набегі літоўскіх атрадаў на Валынь.

### Трохі скепсісу

Версія складальнікаў польскіх гербоўнікаў выглядае створанай «задняй датай». Па-першае, дэталі, якія падаюцца занадта дакладнымі для Сярэднявечча: знаходжанне Маркольта (Немчыноўскага?) у 1267 на тэрыторыі Галіцка-Валынскага княства, у Берасцейскім ваяводстве, у непасрэднай блізкасці ад месца будучага забойства (1268). На думку даследчыка рускa-нямецкіх сувязяў у Сярэднявеччы Аляксея Мартынюка, такія супадзенні трапляюцца рэдка і самі па сабе выклікаюць падазрэнне. Ці не «прыстасавалі» складальнікі гербоўніка род Немчыноўскіх да «Немчына» Маркольта, які згадваецца ў Іпацьеўскім летапісе? Вядома ж, рабіць гісторыю роду «задняй датай» было улюбёным заняткам складальнікаў гербоўнікаў (асабліва польскіх).

### На перспектыву

З іншага боку, ёсць падставы давяраць факту, што род Немчыноўскіх з часоў князёў Данілавічаў мог быць звязаны з Прусіяй і надалей з Берасцейскім ваяводствам: Даніла Галіцкі ўдзельнічаў у супольных паходах супраць паганцаў прусаў, яцвягаў, а таксама Літвы Міндоўга, часта дапамагаючы Тэўтонскаму ордэну. За гэты час у атачэнні князя, які пасябраваў з папам, мог з'явіцца рыцар нямецкага паходжання, які ўдзельнічаў у войнах супраць паганцаў і асеў ва ўладаннях Данілы. І ўсё ж такі, каб вырашыць праблему ідэнтыфікацыі Маркольта, трэба высветліць, ці карыстаўся храніст Мацей Стрыйкоўскі арыгінальным сюжэтам Іпацьеўскага летапіса. Калі не — можна гаварыць пра два незалежныя сюжэты, і дэтэктыў з Войшалкам будзе працягвацца.

### Эпілог

Незалежна ад таго, кім быў Маркольт, яго асоба цікавая з некалькіх прычын. Па-першае, ён з'яўляецца жывым прыкладам таго, наколькі далёка «Немчын» мог зайсці па службовай лесвіцы ў Рурыкавічаў — калі быў дапушчаны нават да ўдзелу ў палітычных інтрыгах. Па-другое, Маркольт можа з'яўляцца адным з першых «абрусеклых» немцаў Усходняй Еўропы. А гэта паказвае, наколькі «мультыкультурным», кажучы сучаснай мовай, было XIII стагоддзе на ўсходнеславянскіх землях.



**Піліп Падбярозкін**

нар. у 1991 у Мінску. Выпускнік гістфака БДУ. Стажыраваўся ў Лейпцыгскім універсітэце. Займаецца кантактамі германцаў і ўсходніх славянаў у познім Сярэднявеччы (XIV—XVI ст).

